ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№7 (148) ліпень 2023 год
CATHOLICNEWS.BY

# Новапрызначаны кардынал Гуджэроці пра місію ва Украіне і свой нядаўні візіт у Беларусь

**Новапрызначаны кардынал Клаўдыё Гуджэроці падзяліўся сваімі разважаннямі пра міратворчую місію ва Украіне, а таксама ўражаннямі ад урачыстасці з нагоды 25-годдзя каранацыі абраза Маці Божай Будслаўскай.**

У інтэрв'ю Vatican News прэфект Дыкастэрыі па справах Усходніх Цэркваў пракаментаваў дыпламатычныя намаганні Святога Пасада на карысць міру ва Украіне. Ён адзначыў, што не ведае падрабязнасцяў місіі кардынала Дзупі, але ўпэўнены ў тым, што яго "майстэрства і ветлівасць крануць сэрцы".

Узгадваючы свой досвед у Беларусі, Украіне і Грузіі, дзе ён быў нунцыем, Гуджэроці папярэдзіў пра складаныя гістарычныя прычыны, якія стаяць за падзеямі ў гэтых рэгіёнах. На яго думку, людзі на Захадзе ў сваіх "спрошчаных" каментарах гэтых падзей часта абмяжоўваюцца сённяшнім днём. "На Усходзе ж, калі вы жадаеце зразумець "сёння", вы павінны зразумець "учора", – лічыць іерарх. На яго думку, на Захадзе не адбылося ўсведамлення, глыбокага асэнсавання падзення Савецкага Саюза, новых шляхоў, якія адкрыліся пасля яго распаду, але таксама і трагедый савецкага народа.

Падзенне Берлінскай сцяны выклікала вялікі энтузіязм у сувязі са здабытай свабодай, але пры гэтым не ўлічвалася, што людзі страцілі ўсе грошы і былі вымушаныя гадзінамі стаяць у чарзе, каб атрымаць кавалак хлеба. Гэта вельмі складаная сітуацыя агаліла нервы савецкіх людзей і прывяла да адраджэння нацыяналізму,



канфрантацыі, эканамічных цяжкасцей, феномену алігархаў, – падзяліўся сваім поглядам на падзеі іерарх. "Таму ў сваёй місіі кардынал Дзупі сутыкаецца не са сваімі асабістымі цяжкасцямі ў вырашэнні праблем, а са складанасцю саміх праблем", – патлумачыў ён.

Новапрызначаны кардынал падкрэсліў, што тым не менш Францішак "заўсёды шукае і жадае міру за межамі любой рацыянальнай магчымасці, і што гэта адбываецца дзякуючы яго глыбокай веры, якая па-за межамі розуму". Ён нагадаў, што ў яго бытнасць нунцыем ва Украіне Святы Айцец накіраваў гуманітарную дапамогу ў памеры 16 мільёнаў еўра перамешчаным асобам на Данбасе, якой скарысталіся 800 тысяч чалавек.

Працяг на стар. 3


















# Папа запрашае паставіць Эўхарыстыю ў цэнтр жыцця

**У новым відэа, апублікаваным 3 ліпеня, Папа Францішак заклікае каталікаў паставіць цэлебрацыю Эўхарыстыі ў цэнтр жыцця.**

Святы Айцец сцвярджае, што Эўхарыстыя – гэта тое, што "дае нам адвагу ісці да іншых, выходзіць па-за свае межы і адкрывацца з любоўю на бліжніх". Тлумачачы, што "гэта Хрыстус ахвяруе сябе" ў Эўхарыстыі, Папа запрашае "дазволіць Яму сілкаваць нашае жыццё і жыццё нашых братоў і сясцёр".

"Калі мы пакідаем Імшу такімі ж, якімі прыйшлі на яе, значыць, нешта не так", – з такіх слоў Пантыфіка пачынаецца відэа-ролік. Сваёй новай малітоўнай інтэнцыяй, перададзенай усяму Касцёлу праз Сусветную малітоўную сетку, Святы Айцец запрашае разглядаць цэлебрацыю не як рытуальны абавязак, але як сустрэчу з уваскрослым Езусам, таму што "Эўхарыстыя – гэта прысутнасць Езуса", якая "глыбока перамяняе".

Сцэны відэа гэтага месяца адбываюцца ў амерыканскім горадзе Дэтройт. Яго героі – гэта тры вернікі мясцовай архідыяцэзіі, якія ў канцы Імшы нясуць святую Камунію братам і сёстрам у патрэбе па-за межамі касцёла, вяртаючы тую любоў, якую самі атрымалі ў Эўхарыстыі.

"Молімся аб тым, каб каталікі ставілі ў цэнтр жыцця цэлебрацыю Эўхарыстыі, якая глыбока перамяняе чалавечыя адносіны і адкрывае на сустрэчу з Богам і з братамі", – так гучыць папская інтэнцыя на сёлетні ліпень.





# Святы Пасад: місія кардынала Дзупі – адкрыць шляхі да міру

**Святы Пасад паінфармаваў пра завяршэнне місіі кардынала Матэа Дзупі ў Расіі. Іерарх наведаў Маскву з 28 па 30 чэрвеня па даручэнні Папы. Вынікі паездкі будуць прадстаўлены Святому Айцу.**

Кардынал Дзупі знаходзіўся ў Маскве "з мэтай вызначэння гуманітарных ініцыятыў, здольных адкрыць шляхі для дасягнення міру". Зала Друку Апостальскай Сталіцы нагадала, што папскі пасланнік сустрэўся з Юрыем Ушаковым, памочнікам Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі па знешнепалітычных пытаннях, і Марыяй Львовай-Бяловай, упаўнаважанай пры Прэзідэнце Расійскай Федэрацыі па правах дзіцяці. Падчас перамоў падкрэсліваўся гуманітарны аспект ініцыятывы, а таксама неабходнасць дасягнення так жаданага міру.

Кардынал Дзупі падчас свайго кароткага візіту наведаў храм пры Траццякоўскай галерэі, дзе памаліўся перад абразом Маці Божай Уладзімірскай, апецы якой даручыў сваю місію.

Іерарх сустрэўся таксама з Патрыярхам Маскоўскім Кірылам, якому перадаў прывітанне ад Святога Айца і з якім абмеркаваў гуманітарныя ініцыятывы, накіраваныя на пошук міру.

Папскі пасланнік меў сустрэчы з расійскім каталіцкім епіскапатам, а таксама ўзначаліў цэлебрацыю святой Імшы ў маскоўскім катэдральным касцёле, у якой бралі ўдзел многія святары. Літургія прайшла ў прысутнасці паслоў і прадстаўнікоў Міністэрства замежных спраў Расіі.

Вынікі візіту будуць перададзеныя Святому Айцу ў перспектыве далейшых крокаў, каторыя належыць зрабіць як на гуманітарным узроўні, так і ў плане пошуку міратворчых шляхоў, гаворыцца ў камюніке Залы Друку Апостальскай Сталіцы.



*Старонка падрыхтаваная па матэрыялах беларускай рэдакцыі Vatican News*



# Папа блаславіў копіі абразоў Багародзіцы з Беларусі

**Копіі цудадзейных абразоў Найсвяцейшай Панны Марыі, якія ўжо наведалі шмат беларускіх парафій, 28 чэрвеня прыбылі на плошчу святога Пятра ў Ватыкане, дзе іх блаславіў Папа Францішак.**

Збор з пятнаццаці ікон Багародзіцы, напісаных мастачкай з Маладзечна Ядзвігай Сянько, у трэці раз выехаў за межы краіны. У лістападзе копіі абразоў знаходзіліся ў Вільні падчас Апекаў Маці Божай – урачыстасцяў у гонар Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай, а ў маі – у галоўным Марыйным санктуарыі Польшчы, у Чэнстахове. Перэгрынацыю суправаджае іх духоўны кіраўнік ксёндз Станіслаў Станеўскі.

З нагоды 25-годдзя каранацыі цудадзейнага абраза Маці Божай Будслаўскай і 410-годдзя яго з'яўлення ў Будславе ад імя Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага арцыбіскупа Юзафа Станеўскага і беларускіх вернікаў Папу Францішку перадалі ў падарунак выяву Апякункі Беларусі.




# СДМ-2023: католікаў запрасілі ў храмы іншых канфесій і рэлігій

**Удзельнікі Сусветных дзён моладзі ў Лісабоне змогуць наведаць месцы культу іншых рэлігій: ісламу, юдаізму, індуізму, а таксама храмы, дзе будуць адбывацца экуменічныя малітвы.**

Паводле меркавання Лісабонскага Патрыярхату, які прымае сустрэчу маладых каталікаў з усяго свету з 1 па 6 жніўня 2023 года, гэта паспрыяе развіццю дыялогу паміж вернікамі.

Адказны за экуменічныя і міжрэлігійныя адносіны ксёндз Пітэр Стылуэл дадаў, што ў Трапічным батанічным садзе будуць пасаджаныя шэсць дрэў, якія сімвалізуюць шэсць вялікіх рэлігійных традыцый свету. Ён прызнаўся, што Папу Францішку вельмі спадабалася гэта ініцыятыва Лісабонскага ўніверсітэта.

На Сусветных днях будуць прысутнічаць: Супольнасць Тэзэ і Chemin Neuf (Новы шлях), абедзве з Францыі, актыўныя ў сферы экуменізму. Манахі першай будуць весці штодзённыя малітвы ў касцёле святога Дамініка (Igreja de São Domingos), а чальцы Chemin Neuf – у базіліцы Найсвяцейшага Сэрца Езуса, вядомай як Basílica da Estrela.

Са свайго боку Партугальскае біблейскае таварыства рыхтуе выставу, якая спалучае ў сабе "экалогію, Касцёл і этыку". "Мы хочам, каб пілігрымы паразважалі над праблемамі навакольнага асяроддзя на аснове тэкстаў Святога Пісання", – патлумачыў евангельскі тэолаг Сімао Фансэка. Ён дадаў, што ініцыятыва мае на мэце паказаць "прыгажосць блакітнай планеты", якой з'яўляецца Зямля.

Партугальскія англікане з Лузітанскай Царквы таксама далучацца да форуму ў Лісабоне. Каардынатар Моладзевага сакратарыяту гэтай хрысціянскай супольнасці паведаміла, што ў їм возьме ўдзел група англіканскай моладзі, а ў англіканскім кафедральным саборы святога Паўла на працягу ўсяго часу правядзення Сусветных дзён будзе працаваць Зона адпачынку. Візіт удзельнікаў у гэты храм стане "знакам экуменізму", – адзначыла Марыяна Са Кута.

# Швейцарская гвардыя папулярызуе сваю службу сярод моладзі

**14 кастрычніка ў Папскім музеі Швейцарскай гвардыі ў Натэрсе пройдзе інфармацыйны дзень для маладых швейцарцаў, якія цікавяцца службай у шэрагах гэтага вайсковага фарміравання.**

Мэта ініцыятывы – папулярызацыя Швейцарскай гвардыі сярод маладых католікаў. Швейцарцы ва ўзросце 12-19 гадоў, зацікаўленыя такой службай, атрымаюць падрабязную інфармацыю пра патрабаванні і працэсы адбору. Акрамя разнастайных прэзентацый і наведвання музеяў, у дзяцей і падлеткаў будзе магчымасць пагутарыць з дзеючымі гвардзейцамі і афіцэрамі.

Колькасць месцаў абмежаваная, таму неабходна зарэгістравацца на сайце Папскай Швейцарскай гвардыі. Тут размешчана і падрабязная інфармацыя пра мерапрыемства, уключаючы час і ўмовы ўдзелу.

Швейцарская гвардыя служыць Рымскім Пантыфікам з 1506 года. Салдаты і афіцэры адказваюць за асабістую ахову Святога Айца і кантралююць уваходы ў Ватыкан. Цяпер у асабовым складзе каля 135 чалавек. Падаць заяўку на службу ў шэрагах гвардыі могуць швейцарскія католікі ва ўзросце ад 19 да 30 гадоў.

*Кс. Аляксандр Амяльчэня,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*



## Партугальскі ўрад падрыхтаваў да СДМ праект амністыі для моладзі

**У сувязі з Сусветнымі днямі моладзі ў Лісабоне ўрад Антоніу Кошты ўхваліў праект пашырэння амністыі на маладых людзей, якія адбываюць у Партугаліі турэмнае зняволенне тэрмінам не больш за 12 месяцаў.**

У абгрунтаванні ўлады патлумачылі, што амністыя непасрэдна звязана з мерапрыемствам, арганізаваным з 1 па 6 жніўня, з удзелам маладых католікаў і Папы Францішка. Кошта адзначыў, што менавіта дзякуючы яму паўстала ініцыятыва распаўсюдзіць амністыю на моладзь. “Яго сведчанне жыцця моцна пазначана навучаннем пра неабходнасць рэсацыялізацыі людзей, якія знаходзяцца ў канфлікце з законам”, – гаворыцца ў паведамленні офіса прэм’ер-міністра.

Удакладняецца, што законапраект прадугледжвае амністыю для маладых людзей ва ўзросце 16-30 гадоў, якія не здзейснілі цяжкіх злачынстваў. Дакумент ужо перададзены ў Асамблею Рэспублікі, аднапалатны парламент Партугаліі. Згодна з ім, на памілаванне змогуць разлічваць тыя, хто быў асуджаны не пазней за 19 чэрвеня 2023 года.

*Кс. Аляксандр Амяльчэня,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*



# Новапрызначаны кардынал Гуджэроці пра місію ва Украіне і свой нядаўні візіт у Беларусь

*Працяг.*
*Пачатак на стар.1*

Гэта традыцыя ўзыходзіць да часоў стварэння Савецкага Саюза, куды Папа дасылаў цэлыя гуманітарныя канвоі. Палітыка Святога Пасада заўсёды была і застаецца палітыкай надзеі, – лічыць арцыбіскуп Гуджэроці, дадаючы, што папская дыпламатыя – гэта не дыпламатыя разлікаў, а дыпламатыя магчымых для рэалізацыі мараў.

Свой нядаўні візіт у Беларусь у якасці спецыяльнага пасланніка Францішка на святкаванне 25-й гадавіны каранацыі цудатворнага абраза Маці Божай Будслаўскай іерарх пракаментаваў так: “Цудоўнае свята народа, які пакутуе ў цішыні і які знайшоў у веры такую відавочную, на мой погляд, моц сведчання”. Па яго словах, гэтая сціплая выява Маці Божай з’яўляецца для беларусаў “знакам ідэнтычнасці і надзеі”. Ён быў асабліва ўражаны тым, што ў рэгіёне, дзе суседнія народы змагаюцца адзін з адным, некалькі тысяч чалавек ішлі пешшу па лясах, сярод азёр, па складаных дарогах, маліліся на каленях і праяўлялі салідарнасць адно з адным. Блізкасць Папы дазваляе ім адчуць, што пра іх не забыліся, – зазначыў арцыбіскуп Гуджэроці.



Каментуючы сваё кардынальскае прызначэнне, іерарх заўважыў, што ўспрымае яго перш за ўсё як адказнасць, якую лічыць асабліва значнай, але і цяжкай, таму што пурпур – гэта сімвал не славы, а крыві. Ад кардынала патрабуецца гатоўнасць быць верным Касцёлу і Святому Айцу і нават аддаць за іх сваё жыццё, калі гэта неабходна, – заўважыў Клаўдыё Гуджэроці.

***Марыя Валодзіна,***
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Хто шые Папу Францішку арнат для святой Імшы ў Лісабоне?

**У партугальскіх майстэрнях па пашыве адзення ўжо вырабляюць дзесяць тысяч арнатаў для святароў і біскупаў, якія будуць удзельнічаць у святкаванні Сусветных дзён моладзі.**

Папскі арнат, як стала вядома штодзённаму выданню “Correio da Manha”, будзе пашыты ў адной са швейных майстэрняў на паўночным захадзе Партугаліі. Адначасова, як паведамляе мясцовая прэса, распачаўся выраб камунікантаў для св. Імшаў СДМ у Лісабоне. Гэтую справу арганізатары даручылі сёстрам-кларыскам. Яны выпякаюць гостыі з зерня, сабранага ў цэнтральнай частцы Партугаліі – аграрным рэгіёне Алентэжу. Прыкладна каля дзвюх тон збожжа мясцовыя аграрыі ўжо перадалі для вытворчасці гостый.

Сусветныя дні моладзі ў Лісабоне адбудуцца з 1 па 6 жніўня 2023 года. Удзельнікаў падзеі прымуць тры цэнтральныя дыяцэзіі: Лісабон, Сантарэм і Сетубал. На наступны дзень пасля ўрачыстага пачатку сустрэчы на СДМ прыбудзе Папа Францішак, які падчас знаходжання ў Партугаліі наведае Лісабон, Фаціму і Кашкайш.




*credo.pro*
*пераклад* ***Марыны Ткач***

# Прыгожы танец балерыны пад спеў “Ave Maria”

**Сваім вытанчаным выкананнем артыстка балета Вялікага тэатра ўшаноўвае Дзеву Марыю, паведамляе pl.aleteia.org.**

Ёсць шмат спосабаў, якімі мы можам паказаць сваю любоў і аддананасць Найсвяцейшай Маці. Вытанчанае выкананне Таццяны Осіпавай з Акадэміі балета Вялікага тэатра, можна сказаць, гэта цудоўна паказвае.

Танцорка здаецца захопленай, плаўна рухаючыся ў рытме Ave Maria de Caccini (песня была складзена і запісана Уладзімірам Вавілавым у 1970 годзе).

Каб дадаць шарму танцу, арыю выконвае каларатурнае сапрана Сумі Джо з Паўднёвай Карэі.



*Відэа:*



Каталіцкі ВЕСНІК №7 (148) ліпень 2023 г.

# У Глыбокім знайшлі абразок Маці Божай з вершам Казіміра Сваяка

**У людзей у старых шафах і на гарышчах можна знайсці шмат цікавых рэчаў, каштоўных як для малой радзімы, так і агулам для гісторыі Беларусі. Нядаўна адзін чалавек набыў дом у Глыбокім на вуліцы, католая мае гістарычную назву Копцеўская, а цяпер называецца Максіма Горкага. Сярод папер, якія засталіся ад былых гаспадароў, новы ўладальнік знайшоў некалькі ўнікальных старых абразкоў.**

Асабліва цікавы для гісторыі невялікі папяровы абразок з выявай Маці Божай Вастрабрамскай. Вядома, што сам гэты абраз знаходзіцца ў нашай гістарычнай сталіцы – Вільні, у капліцы пры Вострай Браме. Абразом апекаваліся манахі з ордэна кармелітаў босых. Гэта той самы ордэн, які меў кляштар у Глыбокім (былы кармеліцкі касцёл цяпер з'яўляецца праваслаўным саборам). Абраз Маці Божай Вастрабрамскай у нашым рэгіёне ўшаноўваюць і католікі, і праваслаўныя. Яго можна ўбачыць не толькі ў касцёлах, але і ў цэрквах – напрыклад, у Глыбокім, Порплішчы, Сітцах.

Але вяртаемся да папяровага абразка. На пярэдняй яго частцы выяўлены абраз Маці Божай Вастрабрамскай, а пад ім маленькім шрыфтам панямецку – "Stachistich v. Carl Mayer's K. A. in Nürnberg". Гэта значыць, што аўтарам гравюры з'яўляецца Карл Майер (1798-1868), гравёр з нямецкага горада Нюрнберга. У Інтэрнэце лёгка знайсці абразкі, якія былі перадрукамі гэтай выявы. Адным з такіх перадрукаў быў і знойдзены ў Глыбокім абразок.

Але самае цікавае знаходзім на адваротным баку абразка. Там – тэкст рэлігійнай песні на беларускай мове, напісаны лацінкай. У другой палове XIX – першай палове XX стагоддзя лацінка часта выкарыстоўвалася ў беларускіх выданнях, асабліва ў каталіцкай рэлігійнай літаратуры.

На абразку не пазначаае аўтарства тэксту гэтай песні. У многіх даступных публікацыях аўтарства прыпісваюць Казіміру Сваяку. Гэтым творчым псеўданімам падпісваўся ксёндз Канстанты Стэповіч, які быў беларускім паэтам і дзеячам нацыянальнага руху. Сапраўды, мы знаходзім песню на старонцы 268 у малітоўніку "Голасдушы", які быў выдадзены ў Вільні ў 1926 годзе. Укладальнікам гэтага малітоўніка быў якраз кс. Канстанты Стэповіч. Праўда, у малітоўніку тэкст песні адрэдагаваны. Першая страфа гучыць так:

*Вострабрамска, Маці Божа,*
*раска чыстая, прыгожа*
*Міласэрдзе Твае волі*
*Свеціць Вільні ў нядолі.*

Падобна, тэкст быў зменены, каб стаў больш зразумелым і правільным тэалагічна. Застаецца пытаннем, хто быў выдаўцом гэтага абразка. На ім не пазначана ні даты, ні месца выдання, ні дазволу касцельных уладаў на друк. Калі звярнуць увагу на тое, што на ім была надрукаваная ранейшая версія верша, то можна выказаць меркаванне, што ён быў выдадзены раней за малітоўнік "Голас душы", то бок да 1926 года.




**Песня Да Маткі Боскай Вострабрамскай**

*Вострабрамска Маці Божа,*
*Ты прачыста Райска рожа! [ружа – заўв. аўт.]*
*З святой Тройцы Твая доля*
*Свяце Вільні ў нядолі,*
*У краі нашым Ты ў чэсці*
*Нясеш з Неба добры весці!*
*Шчасце для для нашага краю!*
*Даеш нам ад Бога з Раю!*
*Уся Цябе Русь славіць Бела*
*І Літва і Польшча цэла,*
*Бо ты Маці Міласціва,*
*Сваім дзеткам дабратліва –*
*Іх у смутку пацешаеш,*
*Слабых хворых папраўляеш!*
*І хто толькі к Табе прыйдзе,*
*То без радасці не выйдзе,*
*Ты так кожнаму дагодзіш,*
*Што надзею ў сэрцы зродзіш,*
*Праз Цябе і важна віна*
*Даруецца ў Бога Сына!*


Pieśnia
Da Matki Boskaj Wostrabramskaj.

Wostrobramska Maci Boža,
Ty prač[illegible]a Rajska roža!
Z swiatoj Trojcy Twaja dola
Swiacić Wilni u niadoli,

U kraju našym Ty u češci
Niasieš z nieba dobry wieści!
Ščaście dla našaho kraju!
Daješ nam ad Boha z Raju!

Usia Ciabie Ruś sławić Biela
I Litwa i Polšča cela,
Bo Ty Maci Miłaściwa,
Swaim dzietkam dabratliwa —

Ich u smutku paciešaješ,
Słabych chworych papraŭlaješ!
I chto tolki k Tabie pryjdzie,
To biez radaści nia wyjdzie,

Ty tak kožnamu dahodziš,
Što nadzieju ŭ sercy zrodziš;
Praz Ciabie i ważna wina
Darujecca ŭ Boha Syna!

Гэта ўжо другая знаходка папяровага абразка з рэлігійным тэкстам па-беларуску. У 2017 годзе Юлія Цярэньева з Браслаўшчыны перадала мне абразок з каляровай выявай Маці Божай Вастрабрамскай. На адваротным баку – тэкст песні "Матачка Божая, Матачка добрая". Думаю, што няма патрэбы цытаваць у газеце гэтую песню, бо яе часта спяваюць у касцёлах. Аўтарства яе невядомае. Таксама невядомае і аўтарства абразка.

Знаходкі абразкоў з песнямі па-беларуску нагадваюць пра тое, што ў пачатку XX стагоддзя сярод часткі вернікаў існавала імкненне ўжываць у рэлігійным жыцці беларускую мову. Гэтае імкненне знаходзіла падтрымку сярод ксяндзоў-беларусаў і нацыянальнай інтэлігенцыі. Але гістарычныя ўмовы тады складваліся неспрыяльныя. Беларуская мова стала мовай Касцёла толькі ў 90-я гады XX стагоддзя, калі Рэспубліка Беларусь стала незалежнай дзяржавай.

Хачу яшчэ звярнуцца да чытачоў: калі ў вашых сямейных архівах захаваліся старыя фотаздымкі, абразкі, кнігі, дакументы, якія сведчаць пра рэлігійнае і грамадскае жыццё нашага рэгіёна, падзяліцеся, калі ласка, гэтай інфармацыяй. Звязацца са мной можна праз сацыяльныя сеткі або праз мэйл ksz@tut.by ці тэлеграм @shytal. Магчыма, такім спосабам пры вашай дапамозе ўдасца даведацца невядомыя дэталі гісторыі нашага краю.

***Кастусь Шыталь***



**Канстанты Стэповіч** – беларускі каталіцкі святар. Нарадзіўся 19 лютага 1890 года ў вёсцы Барані Свянцянскага павета (цяпер – Астравецкі раён). У 1914 годзе скончыў семінарыю ў Вільні, у 1915 атрымаў святарскае пасвячэнне. З 1912 года пісаў вершы на беларускай мове, друкаваўся ў газетах "Biełarus" і "Kryniсa". Аўтар зборніка вершаў "Мая ліра" (Вільня, 1924), укладальнік малітоўніка "Голас душы" (Вільня, 1926). Служыў як святар у парафіях Клюшчаны, Карыцін, Засвір. Памёр ад сухотаў 6 мая 1926 года, пахаваны ў Вільні на могілках Росы.

# Преодолеть разрыв между верой и жизнью



**Когда я был ребенком, моя вера и моя жизнь довольно легко шли нога в ногу. Очень практической вере меня научили монахини в школе и родители дома. Никакой лжи. Никакого насилия. Сотрудничать. Быть щедрым. Думать о других. Быть заслуживающим доверия. Усердно трудиться. Делать то, что говорят. Это был полезный этический кодекс, основанный на Нагорной проповеди, притчах Иисуса и других евангельских учениях. Вера и жизнь были едины.**

Ситуация несколько усложнилась, когда я пошел в среднюю школу. Учителя из Конгрегации христианских братьев, руководившие школой, преподавали знакомый христианский кодекс, но среди учеников были важны и другие ценности: популярность, чванство и хитрость. Мне казалось, что мои одноклассники больше походили на римлян-язычников, которых мы изучали на уроках латыни, чем на первых христиан: восхищались властью и красотой, а не смирением и служением. Жульничающие опережали тех, кто играл по правилам. Хвастовство, угрозы и насмешки делали тебя "своим". Позерство обеспечивало свидания. Так начал появляться разрыв между тем, во что я верил, и тем, как я жил.

Все стало еще сложнее, когда я пошел на работу. Первое время после окончания колледжа я был репортером в газете. Я работал со многими замечательными людьми, но также регулярно имел дело с негодяями и лжецами. Мне часто приходилось делать одолжения этим людям, чтобы получить то, что мне было нужно. Я узнал о преимуществах того, чтобы говорить не всю правду. Я научился манипулировать другими людьми и получать то, что хотел, не слишком беспокоясь о средствах достижения желаемого. По воскресеньям я ходил на мессу, а остаток недели делал то, что считал нужным для того, чтобы прожить.

Вот уже много лет я пытаюсь разрушить стену между тем, во что верю, и тем, что делаю. Помогает то, что теперь моя карьера связана с религиозным издательством. Мои коллеги стали лучше, чем то окружение, с которым я имел дело в качестве репортера в Нью-Джерси. Но я все еще испытываю трудности. Порой что-то идет не так, и это расстраивает меня. Иногда я уверен, абсолютно уверен: знаю, что люди должны делать, и я поражаюсь и обижаюсь, когда они делают что-то другое.

Но, как бы трудно в это ни было поверить, временами я ошибаюсь. Иногда я поддаюсь этим чувствам обиды и мнительности и делаю несчастным не только себя, но и других людей.

Помогли мне две вещи. Первая – познание себя, особенно своих слабостей. Определенные вещи меня задевают. Некоторые мои реакции почти наверняка чрезмерны и неуместны, и я пытаюсь следить за ними.

Вторая – поиск признаков Божьего присутствия в течение дня. Чтобы сломать стену между верой и жизнью недостаточно просто поступать правильно, преодолевая искушение пойти по "легкому пути". Это также вопрос поиска Бога во всем. Бог присутствует в церкви в воскресенье. Но он также есть на рабочих встречах, на обеденном перерыве с другом, среди наших повседневных задач. Стоит только присмотреться.

***Джим Мэнни***
*jesuit.ru*

# У Беларусі змяняюць закон пра рэлігію. Да чаго варта рыхтавацца, калі яго прымуць?

**У Беларусі рыхтуюцца змены ў закон "Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях". Грамадскае абмеркаванне законапраекта завяршылася 15 чэрвеня, а ўжо ў верасні дакумент мусіць трапіць у Палату прадстаўнікоў. Свае заўвагі да яго аднымі з першых скіравалі каталіцкія біскупы Беларусі.**

Утлумачэнні неабходнасці прыняцця зменаў Упаўнаважаны ў справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў Аляксандр Румак заявіў, што робіцца гэта "з улікам практыкі яго ўжывання", у сувязі са зменамі ў Канстытуцыі і з мэтай замацавання "новых сучасных падыходаў". І хоць ён запэўнівае, што прыняцце закона "не пацягне негатыўных сацыяльных ... наступстваў", Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў Беларусі (ККББ) мяркуе, што рэлігійныя арганізацыі "могуць сутыкнуцца з пэўнымі цяжкасцямі пры выкананні некаторых навел прапанаванага законапраекту, што магло б ускладніць дынаміку дзяржаўна-канфесійных адносін у нашай дзяржаве".

### Перарэгістрацыя рэлігійных арганізацыяў

Законапраект сярод іншага змяняе ўмовы дзейнасці і рэгістрацыі рэлігійных арганізацыяў. У прыватнасці, ён абвяшчае абавязковай умовай стварэння рэспубліканскага рэлігійнага аб'яднання дзейнасць не менш як на працягу 30 гадоў на тэрыторыі Беларусі хоць бы адной рэлігійнай суполкі, каторая ўваходзіць у яго склад, а таксама наяўнасць у аб'яднанні не менш як 15 рэлігійных суполак ва ўсіх абласцях і Мінску. Раней было дастаткова 20 гадоў і 10 суполак у большасці абласцей.

Прыняцце новай версіі закона прадугледжвае перарэгістрацыю ўсіх рэлігійных арганізацый цягам года. Ёсць верагоднасць, што не ўсе з іх могуць гэтую перарэгістрацыю прайсці. Пры гэтым асабліва падкрэсліваецца, што дзейнасць незарэгістраваных рэлігійных арганізацый "забараняецца". А кіраваць рэлігійнай арганізацыяй цяпер зможа толькі грамадзянін Беларусі, які не мае дачынення "да тэрарыстычнай, экстрэмісцкай дзейнасці" і пастаянна пражывае ў краіне.

Праект закона сярод іншага забараняе выкарыстанне ў месцах набажэнстваў любой сімволікі, акрамя рэлігійнай, і дзейнасць рэлігійных арганізацый, накіраваную супраць суверэнітэту Беларусі, яе канстытуцыйнага ладу і грамадзянскай згоды. Таксама культавая маёмасць рэлігійных арганізацый не можа выкарыстоўвацца "ў палітычных мэтах, а таксама тэрарыстычнай і іншай экстрэмісцкай дзейнасці". А ў пералік выпадкаў, пры якіх рэлігійную арганізацыю могуць ліквідаваць, уключаная недапаведнасць яе дзейнасці асноўным напрамкам унутранай і вонкавай палітыкі краіны, канцэпцыі нацыянальнай бяспекі. Ды і сам упаўнаважаны ў справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў надзяляецца правам самастойна прыпыняць дзейнасць рэлігійнай арганізацыі.

### Дадатковы кантроль

Прапануецца ў законе і норма аб стварэнні мясцовымі ўладамі камісіяў па кантролі рэлігійных арганізацыяў, а таксама права правядзення імі адпаведных праверак.

"Незразумела, у чым складаецца настолькі істотнае адрозненне рэлігійнай дзейнасці ад дзейнасці ў галіне культуры, спорту або турызму, што на яе не могуць распаўсюджвацца агульныя для ўсіх нормы, якія рэгулююць кантрольную (наглядную) дзейнасць, і чаму праверкі і маніторынг у сферы рэлігіі мусяць ажыццяўляцца паводле асаблівых правілаў", – задаюцца пытаннем каталіцкія біскупы.

Акрамя таго, у ККББ сумняваюцца ў наяўнасці ў кожным раёне дастатковай колькасці кампетэнтных у рэлігійных пытаннях асобаў. Таксама там лічаць "залішнім і неканструктыўным" права чыноўнікаў "без запрашэння або ўзгаднення" з'яўляцца на рэлігійныя мерапрыемствы, рэлігійныя абрады або ў нядзельныя школы.

Пры гэтым біскупы заклікаюць вызваліць святароў і семінарыстаў ад прызыву на тэрміновую вайсковую службу і службу ў рэзерве ды дазволіць рэлігійным арганізацыям не аплачваць паслугі за правядзенне масавых мерапрыемстваў.

### Спісы вучняў нядзельных школ

У дакуменце падрабязна апісаны парадак стварэння і функцыянавання нядзельных школ і груп асветы для дарослых, змест праграмаў якіх "не павінен супярэчыць ідэалогіі агульнапрызнаных традыцыйных каштоўнасцяў беларускай дзяржавы".

"Гэта дазволіць больш эфектыўна кантраляваць дзейнасць нядзельных рэлігійных школ рэлігійных арганізацый і ў той жа час мець звесткі пра іх фактычную працу", – тлумачыць упаўнаважаны Румак.

Сярод іншага, нядзельныя школы мусяць стварацца на падставе пісьмовых заяваў бацькоў. Каталіцкія біскупы не выключаюць, што ў выніку можа з'явіцца абавязак вядзення пайменных спісаў дзяцей, якія навучаюцца рэлігіі, а затым спісы могуць запатрабаваць чыноўнікі. А гэта "цягне за сабой значнае змяненне аб'ёму правоў і абавязкаў вернікаў у бок іх абмежавання". Агулам, заяўляюць у ККББ, ствараецца сітуацыя, калі "фундаментальнае права на навучанне дзяцей рэлігіі можа быць рэалізаванае толькі за кошт адмовы як дарослых, так і дзяцей ад фундаментальнага права на ананімнасць вернікаў". Больш за тое, нацыянальныя меншасці пазбаўляюцца права вучыцца рэлігіі на роднай мове.

Не згодныя біскупы і з тым, што дакумент не лічыць рэлігійную асвету адукацыйнай дзейнасцю, але пры гэтым патрабуе штогод падаваць мясцовым уладам інфармацыю "аб дзейнасці па рэлігійнай асвеце дзяцей, якія наведваюць нядзельныя рэлігійныя школы ў парадку і складзе, вызначаным Міністэрствам адукацыі".

Таксама "забараняецца распаўсюджванне рэлігійнай літаратуры па-за культавымі будынкамі", як і яе паступленне ў бібліятэкі ўстановаў адукацыі.

"Узнікае пытанне: ці будуць адбываць канфіскацыі Бібліяў, Каранаў і іншых святых кніг з універсітэцкіх бібліятэк?" – гаворыцца ў заўвагах каталіцкіх біскупаў.

### Крытыкуюць не толькі каталікі

Свае заўвагі на Прававым форуме Беларусі пакінулі і іншыя рэлігійныя арганізацыі, як, напрыклад, Гродзенская і Віцебская епархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы. У прыватнасці, прадстаўнікі БПЦ адзначылі, што некаторыя фармулёўкі дакумента ўзятыя "з савецкіх атэістычных дапаможнікаў". А абавязак таго, каб дзейнасць рэлігійнай арганізацыі адпавядала напрамкам унутранай і вонкавай палітыкі дзяржавы, "супярэчыць прынцыпам аддзялення царквы ад дзяржавы і свецкаму характару апошняй", – заявілі яны.

Крытыкуюць праваслаўныя і забарону рэлігійным арганізацыям арандаваць памяшканні ва ўсіх, хто займаецца адукацыйнай дзейнасцю, бо гэта "можа паставіць у цяжкае становішча як сельскія прыходы, так і маладыя гарадскія абшчыны".

Праект закона прапануе таксама дазволіць місіянерскую дзейнасць толькі ў будынках і на ўчастках рэлігійных арганізацыяў, у месцах паломніцтва, забараніўшы яе ў тым ліку ў жылых памяшканнях.

"З пераліку дазволеных для місіянерскіх казанняў



месцаў фактычна выключаецца публічная прастора, тэрыторыя іншых не рэлігійных арганізацый, сфера прыватнага ўзаемадзеяння святароў з грамадзянамі і грамадзян паміж сабой, што супярэчыць самому прынцыпу свабоды веравызнання", – адзначылі прадстаўнікі БПЦ на форуме.

### А як у суседзяў?

Пры падрыхтоўцы законапраекта вывучаліся законы далёкіх ад Беларусі – і геаграфічна, і рэлігійна – Азербайджана, Казахстана, Кыргызстана, Таджыкістана і Узбекістана. Але, апроч Расіі, не браўся досвед суседніх краін, узаемадзеянне якіх з Беларуссю налічвае не адно стагоддзе.

Напрыклад, калі ў Беларусі плануецца заканадаўча забараніць дзейнасць незарэгістраваных рэлігійных арганізацыяў, то ў законе Літвы "Пра рэлігійныя грамады і супольнасці" дзяржаўная рэгістрацыя з'яўляецца не абавязкам, а правам. Больш за тое, "рэлігійныя суполкі і супольнасці маюць права на вольную самаарганізацыю ў адпаведнасці са сваёй іерархічнай і інстытуцыйнай структурай, самастойна згодна са сваімі канонамі, статутамі і іншымі нормамі распараджацца сваім унутраным жыццём". А ў беларускім законапраекце прапісана нават "наяўнасць выбарнага органу кіравання рэлігійнага аб'яднання", што ў сітуацыі з каталіцкімі дыяцэзіямі, якімі мусяць аднаасобна кіраваць прызначаныя Папам Рымскім біскупы, робіць для каталікаў "гэтую норму невыканальнай", – заяўляюць у ККББ.

У Літве вольнае адпраўленне рэлігійных абрадаў і культавых цырымоній ажыццяўляецца не толькі ў культавых будынках і вакол іх, але і ў дамах і кватэрах грамадзян, у памяшканнях для развітання з целам нябожчыка, на могілках і ў крэматорыях. А таксама, па просьбах вернікаў, у шпіталях, вязніцах, пансіянатах, вайсковых частках, школах. Ды і рэлігійнае навучанне можа весціся не толькі ў нядзельных школах пры парафіях, але і ў дзяржаўных і недзяржаўных вучэбна-выхаваўчых установах.

Значна прасцейшыя ў суседняй Літве і законы пра рэгістрацыю рэлігійных аб'яднанняў. Для гэтага дастаткова дзвюх суполак, а не 10, як гэта цяпер у Беларусі, ці 15, як гэта плануецца зрабіць. Колькасць асобаў, неабходная для рэгістрацыі абшчыны, таксама меншая – 15 супраць 20.

У пытаннях дабрачыннасці беларускі законапраект прадугледжвае, што рэлігійныя арганізацыі могуць ствараць юрыдычныя асобы і структурныя падраздзяленні толькі па аказанні сацыяльных паслуг пажылым грамадзянам, інвалідам, сацыяльнай рэабілітацыі грамадзян, залежных ад псіхаактыўных рэчываў або "дзіцячыя дамы па ўзгадненні з адпаведным абласным або Мінскім гарадскім выканаўчым камітэтам". У Літве падобных абмежаванняў няма, больш за тое, прапісана, што рэлігійныя арганізацыі нават могуць ствараць лякарні ды іншыя "дабрачынныя ўстановы і арганізацыі". Няма ў літоўскім законе ні слова і пра "рэлігіязнаўчую экспертызу" рэлігійнай літаратуры.

### Што цяпер?

Як стала вядома рэдакцыі "Каталіцкага Весніка", заўвагі Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі былі ўжо перададзеныя Упаўнаважанаму па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Аляксандру Румаку. Таксама на тэму гэтых змяненняў у законе неаднаразова размаўляў з упаўнаважаным Апостальскі нунцый у Беларусі Антэ Ёзіч. Уздымаў гэтае пытанне падчас нядаўняга візіту ў Беларусь спецыяльны пасланнік Папы Францішка арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці. Апроч Румака, ён сустракаўся з міністрам замежных спраў Сяргеем Алейнікам і старшынёй Мінскага аблвыканкама Аляксандрам Турчыным.

Сам жа план падрыхтоўкі законапраекта прадугледжвае, што ён у верасні мусіць трапіць у Палату прадстаўнікоў. Калі яна яго ўхваліць, дакумент паступіць у Савет Рэспублікі і пасля зацвярджэння апошнім трапіць на падпісанне Аляксандрам Лукашэнкам.

***Мечыслаў Гапановіч***

# Антоній Пустэльнік

**Манаства – гэта своеасаблівая форма аскетычнага жыцця, якая характэрным чынам развілася ў Касцёле. Ёсць дзве яе формы: жыццё ў адасобленасці (аскетычнае жыццё) і ў супольнасці. Мы пазнаёмімся з першай формай манаскага жыцця, з аскетызмам, што па часе ўзнікла раней, чым жыццё ў супольнасці.**



**Калыска манаства**

Аскетычнае, ці манаскае жыццё, гэта значыць, жыццё ў адзіноце (слова "манах" паходзіць ад грэч. "monos" – адзін, адзінокі, адасоблены) з'яўляецца не толькі хрысціянскай з'явай. Манахі прысутнічалі ў розных рэлігійных супольнасцях ва ўсім свеце. Аднак у сярэдзіне III – пачатку IV ст. у хрысціянскай супольнасці манаства набыло свае выразныя абрысы.

Месцам, якое лічыцца калыскаю хрысціянскага манаства, быў Егіпет. Яшчэ да прыходу хрысціянства ў габрэйскай дыяспары, каторая пражывала ў Александрыі, з'явілася форма жыцця, якую мы маглі б назваць манаскай. Размова ідзе пра тэрапеўтаў, апісаных Філонам Александрыйскім у творы "Аб кантэмпляцыйным жыцці". Гэта была такая супольнасць мужчын і жанчын, якія вырашылі жыць бясшлюбна. Часцей за ўсё, аднак, гэта былі людзі, якія ўжо мелі вопыт сужэнскага жыцця, выгадавалі дзяцей і ў нейкі момант вырашылі пакінуць сямейную і грамадскую прастору, закрыцца ад іншых на ўскраіне горада, каля возера Марэоціс, каб маліцца, пасціцца і вывучаць святыя тэксты. Такім чынам, александрыйскія хрысціяне ўжо мелі прыклад аскетычнага жыцця тых, хто быў да іх.

**Кім быў Антоній Пустэльнік?**

У хрысціянскай традыцыі заснавальнікам манаства лічыцца св. Антоній. Верагодна, па нацыянальнасці Антоній быў коптам, а не грэкам. Ён паходзіў з даволі заможнай сям'і, аднак у дзяцінстве стаўся круглым сіратой. На плечы маладога Антонія лёг цяжар клопатаў пра сямейны дастатак, а таксама пра выхаванне малодшай сястры. Але не забываймася пра тое, што ён быў хрысціянінам. Таму аднойчы ім авалодала моцнае жаданне такога жыцця, пра якое мы ведаем з Дзеяў Апосталаў і Евангелля, калі вучні Езуса Хрыста пакідалі усё, прадавалі сваю маёмасць, раздаючы грошы бедным, каб пайсці за Езусам.

Біяграфія св. Антонія, напісаная св. Атаназіем, распавядае, што, будучы 20-гадовым юнаком, Антоній аднойчы зайшоў у касцёл і пачуў у сваім сэрцы словы: "Калі хочаш быць дасканалым, ідзі, прадай маёмасць сваю і раздай убогім, і будзеш мець скарб у нябёсах; пасля прыходзь і ідзі за Мною" (Мц 19, 21). Пасля гэтага без ваганняў ён вырашыў весці аскетычнае жыццё. Антоній прадаў сваю маёмасць, раздаў грошы бедным, частку з якіх усё ж пакінуўшы сабе праз патрэбы ўтрымання і выхавання сястры, а сам пачаў жыць у невялікай хатцы, прысвяціўшы сябе аскетычнаму жыццю.

**Мудрая пчала**

Жыццяпіс святога кажа пра тое, што на пачатковым этапе свайго манаскага жыцця Антоній наведваў іншых манахаў, якія, так, як і ён, жылі ў хатах на ўскраінах вёсак, не жаніліся і займаліся духоўнымі практыкаваннямі. Атаназій піша, што са сваёй хаты, каторая знаходзілася побач з роднай вёскай Кома, Антоній, як мудрая пчала, лётаў у іншыя вёскі, нейкі час знаходзячыся побач з духоўнымі настаўнікамі, збіраючы, як пчала, іх мудрасць, як пылок з кветак, каб пазней засвоіць яе ў сваёй уласнай келлі. Ад кожнага з манахаў ён вучыўся розным цнотам: ад аднаго Антоній навучыўся стойкасці ў начных малітвах, ад другога – сну на цвёрдай зямлі, ад іншага – любові да чытання святых кніг, ад яшчэ ад аднаго – працяглых пастоў. Так ён засвоіў усе аскетычныя практыкі і пачаў іх рэалізаваць у сабе.

**Наватарскі крок Антонія**

Мы бачым, што сама з'ява аскетызму ў хрысціянстве была старэйшая за Антонія, бо ён сам карыстаўся вопытам мудрацоў і настаўнікаў духоўнага жыцця. Дык чаму ж тады яго называюць заснавальнікам манаства?

Уся справа ў тым, што ў нейкі момант Антоній зрабіў зусім наватарскі крок: пакінуў свой дом і пасяліўся ў закінутай крэпасці Піспір, размешчанай у глыбокай пустыні. Толькі адзін чалавек ведаў пра яго месцазнаходжанне. У іх была дамоўленасць, што час ад часу ён павінен быў прыносіць пустэльніку хлеб, бо вада была яму зусім не патрэбная… Як гэта? Ці Антоній мог пражыць без вады? Не, проста ў крэпасці, дзе ён жыў у адзіноце, была крыніца. Такім чынам, у поўнай зачыненасці ён правёў некалькі гадоў, цалкам засяродзіўшыся на духоўным жыцці. Гэты перыяд быў вельмі патрэбны не толькі самому Антонію, але і ўсім тым, хто ў будучым павінен быў стаць яго паслядоўнікамі.

**Духоўны барацьбіт і кіраўнік манаскага жыцця**

Час, які наш пустэльнік правёў у поўнай адзіноце і адасобленасці, стаў перыядам вялікіх духоўных змаганняў. Антоній, калі быў адарваны ад свету, не ўпаў у нейкую меланхолію ці бяздзейнасць, але распачаў глыбокую духоўную барацьбу з усімі тымі дэманамі, з якімі чалавек павінен сутыкнуцца і пераадолець, каб дасягнуць Бога. Гэты досвед Антонія паказвае сэнс усяго манаскага жыцця. Той, хто хоча быць дасканалым, павінен зразумець, што сапраўднае жыццё знаходзіцца не звонку, а ўнутры чалавека. Нават калі чалавек адрываецца ад знешняга свету, гэта не значыць, што ён памірае, але што ён проста ўваходзіць у тое, што з'яўляецца яго рэальным жыццём. Бо мэта жыцця чалавека – належаць не свету, але Богу. Такім чынам, Антоній, адасобіўшыся ад свету, зусім не памірае, але вядзе інтэнсіўны лад жыцця.

Чалавек, каторы прыносіў Антонію хлеб, аднойчы заўважыў, што пустэльнік доўга не выходзіў з крэпасці. Ён чуў моцныя грукі, неразборлівы шум, нейкія крыкі. Відома, гэта не магло доўга заставацца тайным для жыхароў навакольных вёсак. Людзям сталася цікава, што ж адбываецца з Антоніем? Нарэшце, яны вырашылі выламаць вароты, каб дабрацца да таго, хто спрабаваў адасобіцца ад іх. І тады, як распавядае Атаназій, Антоній выйшаў са сваёй крэпасці.

Гэта быў зусім іншы чалавек. Чалавек, пасвечаны ў Божыя таямніцы, з'яднаны са Словам, гэта значыць, Божым Сынам Езусам Хрыстом, які жыў у поўнай згодзе з прыродай. Ён быў абсалютна эмацыянальна ўраўнаважаным чалавекам: не плакаў і не радаваўся, калі ўсе яго абдымалі. Душа яго была чыстая. Яго настрой быў цалкам натхнёны Словам Божым. І вось тады Антоній стаўся сапраўдным кіраўніком для ўсіх, хто хацеў пайсці яго шляхам.

Пустэльнік звярнуўся да прысутных з прамовай пра тое, як перамагчы дэмана і знайсці ўнутраны супакой. Гэта яго досвед, апісаны Атаназіем у біяграфіі св. Антонія, таксама выражаны ў лістах нашага пустэльніка да сваіх вучняў, і сёння вядзе і накіроўвае ўсіх тых, хто шукае тут, у гэтым свеце, адзінства з Богам, якое прывядзе да непахіснага супакою.

Св. Антоній з'яўляецца гістарычнай асобай, але мы можам пазнаёміцца з ім толькі праз напаўлегендарную гісторыю, напісаную св. Атаназіем. Нягледзячы на гэта, ён, стаўшыся першым у гісторыі кіраўніком манаскага жыцця, лічыцца яго заснавальнікам і дагэтуль вызначае яму кірунак.

*Кс. Павел Эйсмант*

# "Мой герой – Езус". Адважнае сведчанне хлопчыка ў сваёй школе

**Падчас прэзентацыі перад аднакласнікамі і настаўніцай хлопчык абраў Езуса сваім "супергероем".**

**Часам шчырае і чулае сведчанне дзяцей пра свае рэлігійныя перакананні можа натхняць іншых. Так атрымалася ў выпадку маленькага Кая Мэдысана Брэдфарда.**

Дзякуючы яго маці Крысці Кендал Брэдфард, якая падзялілася прэзентацыяй хлопчыка ў класе, многія даведаліся пра гэтую гісторыю, што адбылася ў ЗША.

**Ваш любімы герой…**

Настаўнік Кая прапанаваў дзецям выбраць свайго любімага героя і расказаць пра яго ў прэзентацыі, якую яны павінны былі прадставіць астатнім вучням. Дзеці мусілі даць назву прэзентацыі і гаварыць ад першай асобы, увасабляючы персанажа, які з'яўляецца іх супергероем. Сваю прэзентацыю Кай назваў "Добрая навіна".

**"Я – Сын Божы"**

Хлопчык пачаў прэзентацыю перад аднакласнікамі са слоў: "Я – Езус Хрыстус. Я нарадзіўся ў Бэтлееме 2000 гадоў таму. Я – Сын Божы". Усе маўчалі і ўважліва слухалі, седзячы на падлозе ў класе.

Кай працягваў расказваць пра свайго асаблівага супергероя, трохі нервуючыся і час ад часу пазіраючы на сваю прэзентацыю, каб не згубіцца і нічога не прапусціць: "Я – дарога, і праўда, і жыццё". Ён таксама дадаў астатні ўрывак з Евангелля св. Яна: "Ніхто не прыходзіць да Айца інакш, як толькі праз Мяне" (Ян 14, 6).




**Я памёр на крыжы за твае грахі**

Яго выступленне было кароткім, але хлопчык сабраў усе праўды веры ў Хрыста. Наш герой падзяліўся са сваімі таварышамі прычынамі таго, чаму Езус для яго самы вялікі герой.

Кай патлумачыў гэта так: "Я герой, таму што я нарадзіўся дзіцем, я пражыў ідэальнае жыццё без граху. Я памёр на крыжы за вашыя грахі і ўваскрос праз тры дні, каб вы маглі мець вечнае жыццё са мной на нябёсах".

**Добрыя навіны**

Прэзентацыя скончылася тым, што Кай, злёгку прыўзняўшы рукі, з гонарам заявіў: "Гэта добрая навіна!" Яго маці змясціла відэа ў сваім Instagram і пракаментавала, што вельмі ганарыцца сваім сынам, таму што ён не мог выбраць большага героя.

**Прыклад хрысціянскага выхавання**

Многія іншыя падпісчыкі і карыстальнікі гэтай сацыяльнай сеткі дадалі станоўчыя каментары і высока ацанілі прыклад хрысціянскага выхавання дзіцяці. Іншыя адзначылі, што менавіта такую адукацыю трэба прасоўваць у школах.

Безумоўна, бацькі Кая выхоўвалі свайго сына пахрысціянску і іх прыклад павінен нас натхняць. Але больш за ўсё натхняць мужнасць і ўпэўненасць Кая.

*Паводле pl.aleteia.org*
*Пераклад **Марыны Сінкевіч***

# Урачыстацць у санктуарыі Маці Божай Шкаплернай у Гудагаі

**У парафіі Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі ў мястэчку Гудагай, што ў Гродзенскай дыяцэзіі, 15-16 ліпеня адбываліся ўрачыстасці Маці Божай Шкаплернай.**

■ **Алена Пажога**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

У гэтым годзе Дыяцэзіяльны санктуарый Маці Божай Шкаплернай святкуе 260-ю гадавіну пабудовы касцёла. Гудагай вядомы не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Таму на галоўны адпуст сабралася шмат вернікаў з усёй нашай краіны і з-за мяжы.

Галоўная ўрачыстая Імша пачалася 16 ліпеня а 12-й гадзіне на палявым алтары. Напачатку сабраных прывітаў а. Аркадзь Куляха OCD, кусташ санктуарыя. Узначаліў святую Імшу біскуп Алег Буткевіч, Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі. Разам маліліся таксама біскуп Аляксандр Кашкевіч, біскуп Юры Касабуцкі, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, айцы-кармеліты, святары з Гродзенскай і іншых дыяцэзій. Прыгожым спевам аздабляў урачыстасць хор "Голас душы" з парафіі святых Сымона і Алены ў Мінску.



Падчас казання біскуп Алег Буткевіч засяродзіў увагу на тым, што без Божай ласкі жыццё чалавека нагадвае пустыню. Кармеліты асаблівым чынам ушаноўваюць Маці Божую Шкаплерную. Яна ж прапануе кожнаму дзве простыя рэчы – ружанец і шкаплер. Ружанец – разважанне над Божым словам. Шкаплер – вымоўны знак, які можа захаваць ад бруду граху. Іерарх падкрэсліў, што шкаплер не дзейнічае аўтаматычна, не з'яўляецца амулетам. Чалавек павінен захоўваць хрысціянскія нормы жыцця. Маці Божая абяцае, што той, хто годна носіць шкаплер, не зведае пякельнага агню і будзе вызвалены з чысцу ў першую суботу пасля смерці.

Хрысціянства вымагае ад чалавека захавання адпаведных нормаў, але не зняволівае. Наогул, хрысціянства – гэта пра любоў. Чалавек ад моманту зачацця павінен адчуваць любоў. Бог прагне напаўняць нас любоўю. Любоў прагне, каб мы яе прынялі. Любоў дазволіла Марыі прыняць за дзяцей усіх людзей, нават тых, якія адправілі на крыж Яе Сына. Марыя дзякавала за Божую любоў нават у самыя цяжкія моманты жыцця. Мы павінны быць знакам Божай любові. Бог – наш Айцец, Міласэрны Айцец. Сёння



мы просім, каб Божая ласка ўдзяліла нам дождж Божай любові. Хай шкаплер нагадвае нам, што мы знаходзімся пад апекай Божай Маці.

Біскуп Алег узгадаў ксяндза Адама Вайцяхоўскага, былога пробашча Гудагайскай парафіі, які служыў тут з 1959 года да адыходу ў вечнасць 16 ліпеня 1973 года. Ксёндз Адам вельмі шанаваў Маці Божую Шкаплерную.

Таксама біскуп Алег шчыра павіншаваў а. Аркадзя Куляху, які 16 ліпеня адзначаў дзень нараджэння, і пажартаваў, што ў таго не было іншага выбару, як толькі пайсці ў ордэн кармелітаў.

Біскуп Віцебскі сардэчна запрасіў усіх прысутных на ўрачыстасць Маці Божай Валадаркі азёраў, якая адбудзецца 19 жніўня ў Браславе.

Традыцыйна прагучаў гімн "Цябе, Бога, праслаўляем". Затым з прывітальным словам і падзякай звярнуўся а. Пётр Фраштэнга OCD, Рэгіянальны вікарый кармелітаў босых у Беларусі.

Прадстаўнік раённай улады павіншаваў а. Аркадзя з нагоды дня нараджэння і ўручыў Падзяку ад Астравецкага райвыканкама.

Кусташ санктуарыя выказаў словы падзякі ўсім, хто прычыніўся да падрыхтоўкі і правядзення ўрачыстасці ў гонар Маці Божай Шкаплернай, і запрасіў у Гудагай на найбліжэйшы фэст, які адбудзецца 8 верасня.

# Цэнтру "Светач" у Бягомлі – сем гадоў

**Сямігоддзе дзейнасці адзначыў цэнтр "Светач" пры каталіцкай парафіі Хрыста Валадара Сусвету ў Бягомлі. На ўрачыстасць сабраліся выпускнікі цэнтра з Мінска, Брэста, Жодзіна, Барысава, Наваполацка, Гомеля, Глыбокага, Докшыц.**

■ **Алена Пажога**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

15 ліпеня святкаванне пачалося ў Доме культуры з прагляду відэапрэзентацыі. Кіраўнік цэнтра Уладзімір Шчэпін расказаў пра дзейнасць "Светача", яго дасягненні, выказаў словы ўдзячнасці духоўнаму кіраўніку а. Тадэвушу Кавальскаму, пробашчу мясцовай парафіі. Таксама адзначыў дапамогу мясцовай дзяржаўнай улады, якая адкрытая на супрацоўніцтва.

Пачынаў цэнтр працу з алкагольнай і наркатычнай залежнасцю. Гэта асноўны накірунак дзейнасці і цяпер. Але ў сённяшні час тут працуюць з усімі відамі залежнасці. І наогул, у "Светач" можна звяртацца з любой праблемай, спецыялісты цэнтра акажуць патрэбную дапамогу.

**За сем гадоў дзейнасці гэтай установы 180 чалавек атрымалі дапамогу.**

Узрост тых, хто звяртаўся па дапамогу, ад 14 да 66 гадоў. У асноўным у "Светач" звяртаюцца ва ўзросце ад 35 да 40 гадоў. Гэта жыхары Беларусі і Расіі. 40% выпускнікоў цэнтра змянілі сябе, наладзілі сваё жыццё. Некаторыя з іх жывуць далёка за мяжой, але даслалі віншаванні і падзяку супрацоўнікам "Светача".

Супрацоўнікі цэнтра – тыя, хто сам пазбавіўся залежнасці і атрымаў альбо меў адукацыю псіхолага. Напрыклад, Уладзімір (71 год) – псіхолаг, псіхатэрапеўт. У 66 гадоў трапіў у цэнтр, паспяхова прайшоў курс рэабілітацыі. Потым атрымаў другую вышэйшую адукацыю і дапамагае іншым. Першым крокам да пазбаўлення ад залежнасці з'яўляецца жаданне залежнага змяніць сваё жыццё. Неабходна рэальна ацаніць сябе, прызнаць свае праблемы, усвядоміць сваю бездапаможнасць, факт, што не можаш кантраляваць сваё жыццё.

Праца цэнтра ўключае ў сябе праграму "12 крокаў", заснаваную на пераасэнсаванні свайго жыцця. У "Светачы" ўсё адбываецца паводле адпаведнага раскладу. Чалавеку неабходна быць дысцыплінаваным, прыкладаць намаганні, пераадольваць сябе, браць на сябе адказнасць за сваё жыццё, за свае паводзіны, вучыцца будаваць адносіны з навакольнымі.

Прабыванне ў цэнтры ажыццяўляецца за кошт добраахвотнага ахвяравання. Адначасова ў цэнтры можа пражываць дзесяць чалавек: 6 мужчын і 4 жанчыны. За месяц на патрэбы аднаго рэабілітанта траціцца 1100 рублёў. Калі ж у чалавека няма такой фінансавай магчымасці, то рэабілітацыя адбываецца за кошт ахвяраванняў, сабраных у каталіцкіх парафіях падчас сведчанняў, за кошт дабрадзеяў. За сем гадоў працы цэнтра нікому не было адмоўлена ў дапамозе.

Са студзеня 2017 года ў "Светачы" праводзіцца праца з сузалежнымі з мэтай дапамагчы ўсталяваць здаровыя адносіны паміж роднымі і блізкімі.

Давер да Бога дае сілы для выздараўлення. "Светач" – намоленае месца. 16 ліпеня была адпраўлена святая Імша, якую цэлебравалі а. Тадэвуш Кавальскі і кс. Алег Зямчонак. Удзельнікі сустрэчы маліліся ў капліцы ў Бярозаўцы. Падчас святой Імшы быў асвечаны абраз Маці Божай Шкаплернай.



# “Узяць на калені”. Як не змарнаваць жыццёвае пакліканне дзіцяці

**Дзіця – гэта, бадай, самы вялікі дар, які можа атрымаць чалавек. Аднак бацькі часам забываюць, што сын ці дачка – гэта не ўласнасць, але вольная, свабодная асоба. І задача мамы і таты паклапаціцца, каб такую свабоду ў дзіцяці не адняць.**

Калі справа датычыць паклікання да святарскага ці манаскага жыцця, працуе тое ж самае правіла. Прымушаць ісці ў семінарыю або адгаворваць ад кляштара – дзве крайнасці, якія сустракаюцца ў сем'ях, але не дапамагаюць дзіцяці. І толькі захаванне яго асабістай прасторы паспрыяе агульнаму дабру.

### Не спантаннасць, але сталасць

*“Мне падаецца, што да выхавання, я вельмі прагрэсіўны чалавек. Заўсёды лічыла: дзіця павінна шукаць свой жыццёвы шлях самастойна. А калі яму спатрэбіцца мая парада, то я заўсёды гатовая яе даць,* – распавядае спадарыня Ірына*, маці кс. Аляксандра Жарнасека МІС. – *Я не ўяўляла сабе яго будучыню, а проста назірала за сынам і давала яму поўную свабоду. Нават калі адправіла Сашу ў мастацкую школу, то не дзеля таго, каб ён стаў мастаком, але каб у яго выпрацаваўся густ, з'явілася творчае разуменне”.*

Скончыўшы 8 класаў сярэдняй школы, Аляксандр вырашыў, што хоча больш сур'ёзна займацца мастацтвам – паступіць у адпаведную вучэльню на разьбяра па дрэве. *“Не тое, каб я была супраць яго жадання, але мне падавалася, што, калі ён скончыць старэйшыя класы, пабудзе пару гадоў у сям'і, то яго выбар пасталее. Я яму гэта растлумачыла, сын падумаў і пагадзіўся”,* – узгадвае жанчына.

Пасля Аляксандр быў удзячны маці за падказку. Калі ён умацаваў сваё стаўленне да жыцця, то ўжо было прасцей вызначыць далейшы лёс.

*“Памятаю, мы вярталіся з пілігрымкі, калі ён сказаў: “Пайду ў семінарыю”... Я не надта сур'ёзна ўспрыняла гэтую заяву, адказаўшы: “Ну, мастаком ужо пабыў, цяпер пабудзь ксяндзом”. Аднак, памятаючы ягоныя словы, я бачыла, што гэтае насенне пакрысе прарастае...”,* – дзеліцца спадарыня Ірына.

### Быць побач у выбары

Жанчына прызнаецца, што калі сын ужо збіраўся ў Гродзенскую семінарыю, яна, нічога не сказаўшы, паехала туды, каб зрабіць некалькі матэрыялаў для часопіса і заадно *“зірнуць бліжэй на гэтую асаблівую ўстанову”. “Мяне тады зачапілі словы аднаго выкладчыка: “Вялікая памылка бацькоў, якія, адпраўляючы дзіця вучыцца, працягваюць яго кантраляваць. Калі чалавек паслухаўся Божага закліку, дайце свабоду яму і тым людзям, якіх Госпад вызначыў на яго далейшым шляху””,* – узгадвае верніца.

Адвучыўшыся два гады ў семінарыі, Аляксандр далучыўся да ордэна айцоў-марыянаў у Польшчы. На працягу ўсяго часу пошукаў сябе і Бога ягоная маці была побач з падтрымкай. *“Мы разам перажывалі яго духоўныя крызісы. Я ў сваю чаргу абмяркоўвала са святарамі, ці варта яму прымаць тое ці іншае рашэнне. Пыталася, ці не шкадуе, ці радуецца свайму выбару. У выніку святарскае пасвячэнне ён прымаў як упэўнены ў шляху і шчаслівы чалавек. І я адчувала сябе падобным чынам”,* – распавядае маці святара.

### “Заедзе да нас – ужо раскоша”

Калі асоба прысвячае сябе служэнню Богу, зразумела, стыль яе штодзённасці змяняецца. Аднак гэта не азначае, што яна цалкам выпадае з жыцця людзей, якія гэтага чалавека любяць. *“Падчас навучання сына ў Польшчы інтэрнэту яшчэ не было, і ён часта пісаў лісты, якія я дагэтуль захоўваю. Для яго існуе не толькі служэнне, але ёсць і мы. Ён заўсёды моліцца за нас, пры патрэбе – прыязджае. Мы дзелімся з ім нягодамі, раімся. Разам з тым я разумею, што ў сына шмат сваіх спраў, і стараюся лішні раз не дакучаць. Але я ўпэўненая, што так трэба паводзіць сябе з усімі дзецьмі”,* – разважае спадарыня Ірына.

Разам з тым жанчына падкрэслівае, што з вялікай пашанай ставіцца да чыну святарства і не траціць павагі да ксяндза, нават калі ён перажывае складаныя часы. *“Гэта абраны Богам чалавек, які атрымаў ад Яго місію. Таму і кантакты са святаром, нават калі гэта блізкая асоба, павінны крыху змяняцца. Нельга дапускаць нейкага несур'ёзнага стаўлення ці, напрыклад, адпускаць непатрэбныя жарты”,* – мяркуе наша суразмоўніца.

### Што палохае?

Здараецца, што бацькі супраць таго, каб дзіця пайшло ў кляштар ці семінарыю, нават калі сям'я – гэта вернікі-практыкі. Пры гэтым найбольш распаўсюджаны страх мамы і таты – шлюбы чысціні і цэлібат, інакш, бясшлюбнасць дзіцяці.

*“Мне падаецца, за гэтым страхам крыецца перш за ўсё жаданне аблегчыць жыццё роднаму чалавеку. Каб знайшоў пару, бо так прасцей. Але ці сапраўды будзе прасцей, калі чалавек змарнуе сваё пакліканне? Ці не будзе шкадаваць, што бацькі ўмяшаліся, і ён іх паслухаў? Калі Святы Дух кліча чалавека, трэба гэта паважаць. Супрацоўнічаць з дарам Боязі Божай – не перашкаджаць ні сабе, ні іншаму чалавеку, каб рэалізаваўся Божы план,* – сцвярджае спадарыня Ірына. – *Калі вашае дзіця адчула пакліканне да служэння, прыміце гэта. Не з гонарам, але з радасцю. І дапамажыце, перш за ўсё, малітвай. Я за свайго сына малілася ад самага пачатку, перадусім пра тое, каб ён не памыліўся ў выбары”.*

***Ангеліна Марцішэўская***

**Ірына Жарнасек – пісьменніца, рэдактар часопіса “Маленькі рыцар Беззаганнай”*


У юнацтве кс. Аляксандр дапамагаў маці афармляць ілюстрацыямі дзіцячую старонку ў часопісе "Ave Maria". У дарослым жыцці пераняў яе пісьменніцкі талент


Спадарыня Ірына з сынам падчас яго прыміцыйнай св. Імшы


Перажыванні і радасці маці святара такія ж, як і ў іншых бацькоў

## У Рыме зачыняецца пякарня, якая 93 гады пякла хлеб для Папаў Рымскіх

**79-гадовы Анджэла Арыгоні ўсё жыццё прысвяціў выпечцы хлеба. З дзяцінства ён назіраў, як яго бабуля і бацька абслугоўвалі асаблівага кліента, што жыў у Ватыкане.**

“У 1930 годзе мы пачалі абслугоўваць Папу Пія XI, – распавядае пекар. – З Ватыкана прыехала даверaная асоба з партфелем, каторы закрываўся, як куфар. У бабулі з бацькам быў ключ, дык яны адчынялі, клалі туды хлеба і неслі Папу”.

На працягу 93 гадоў гэтая рымская пякарня, размешчаная недалёка ад Ватыкана, частавала Папаў Рымскіх, кожны з якіх меў свой асаблівы густ.

“Мяне самога яшчэ не было на свеце ў часы Пія XI, а ў часы Пія XII я быў вельмі малады. Памятаю, ён любіў здобны хлеб, які тады пяклі з хрэнам. Ян XXIII любіў маленькія біскоці і бутэрброды”, – успамінае Арыгоні.

Першым Папам, з якім ён сустрэўся асабіста, быў Ян XXIII. “Манахіні адчынілі мне дзверы, я перадаў ім хлеб, і, калі ішоў па калідоры, мяне заўважыў Папа. Манахіні сказалі мне: “Святы Айцец хоча пагаварыць з табой”. Калі я вярнуўся ў пякарню, мой тата сказаў: “Чаму ты так марудзіш? Хутчэй, табе трэба ў школу!” А я яму ў адказ: “Тата, я размаўляў са Святым Айцом!” Саму размову не памятаю, бо быў вельмі ўсхваляваны”.

Анджэла Арыгоні таксама ўзгадвае, як Бэнэдыкт XVI асабіста хадзіў купляць хлеб, калі быў кардыналам. “Ратцынгер прыязджаў сюды, калі быў кардыналам, але я не ведаў, што ён кардынал, бо ён прыходзіў у звычайным адзенні. Раз на тыдзень прыходзіў па хлеб”, – кажа пекар.

Калі Францішак быў абраны Папам, Арыгоні даслаў яму хлеб, які павінен быў нагадаць Папу пра яго дом. “Калі я пачуў, што новы Папа прыбыў з Аргенціны, я адразу спытаў у мясцовых аргенцінцаў, які хлеб яны пякуць на сваёй радзіме. Я збіраўся выпечы яго, але Францішак адказаў, што падыдзе любы хлеб, што ён не хоча, каб хлеб рабілі выключна для яго”.

Цяпер знакамітая пякарня вымушаная зачыніцца праз недахоп фінансаў на ўтрыманне бізнесу. Яе адсутнасць адчуе не толькі Ватыкан. Рыму таксама будзе не хапаць знакамітага хлеба Анджэла Арыгоні.

*Паводле romereports.com*

*Пераклад* ***Марыны Сінкевіч***


Анджэла Арыгоні

# Урачыстасць святога Яна Хрысціцеля ў Мосары

**24 чэрвеня касцёл святой Ганны ў Мосары гасцінна сустракаў шматлікіх вернікаў, якія прыйшлі і прыехалі на свята Нараджэння св. Яна Хрысціцеля. Гэта галоўнае парафіяльнае свята, якое было ўстаноўлена Папам Піям X у 1908 годзе.**

■ **Алена Пажога**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Пробашч парафіі кс. Марат Казлоўскі з радасцю прывітаў святароў, сясцёр законных, прадстаўнікоў Эўхарыстычнага руху моладзі і ўсіх прысутных. Святар зазначыў, што вялікая колькасць людзей, што прыбылі на ўрачыстасць у гэты гарачы летні дзень, яшчэ раз паказвае: чалавек прагне Бога.

Урачыстую святую Імшу ўзначаліў Генеральны вікарый Віцебскай дыяцэзіі ксёндз-пралат Францішак Кісель. Казанне прамовіў а. Віктар Мялешка OFMConv. Святар прапанаваў кожнаму адказаць для сябе на пытанне: “Хто я, а хто Ты, Пане?” Святы Ян адкрыў усяму чалавецтву, кім ён з'яўляецца. Усе мы роўныя перад алтаром Пана. Усе мы дзеці Божыя. Кожны з нас – слуга Божы. Каб быць сапраўдным слугой Пана, неабходна выконваць тры ўмовы.

Па-першае, падчас малітвы пытацца ў Бога пра місію, якую менавіта я павінен выканаць. Усё чыніць на хвалу Пана. Менш планаваць самім, а больш пазнаваць Божую волю.

Па-другое, мець пакору. Святы Ян паказвае нам, што значыць пакора: “Я не варты развязаць раменьчыкі на Яго сандалях”. Маці Божая – прыклад пакоры для кожнага. Таксама неабходна дазваляць Езусу дзейнічаць у нашым жыцці.

Па-трэцяе, усё рабіць бескарысліва. Ніводнай пахвалы не прызначаць сабе, а толькі Богу.

Пасля Эўхарыстыі адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту і Набажэнства да святога Яна, якое правёў кс. Мікалай Ціхановіч.

Затым адбылася Эўхарыстычная працэсія, якая завяршылася спевам гімна “Цябе, Бога, праслаўляем” і блаславеннем Найсвяцейшым Сакрамантам.

На працягу ўсяго свята прысутныя мелі магчымасць ушанаваць мошчы св. Юстына, пакутніка, які жыў у Рыме ў пачатку II ст., каб папрасіць пра палёгку ў пакутах, пра здароўе і пра іншыя дабрадзействы. Мошчы святога знаходзяцца ў касцёле з 1838 года.



## На жнівень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**3 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Мікалай Ліпскі** *(Новалукомль)*;

**4 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*;

**5 жніўня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Юрый Жаўняровіч** *(Ахрэмаўцы)*;

**7 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Параф'янава)*;

**10 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Ідолта)*, **кс. Станіслаў Скрыдалевіч SAC** *(Талачын)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Кляменцій Верт SJ** *(Віцебск)*;

**14 жніўня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Віктар Жук SJ** *(Віцебск)*;

**16 жніўня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Крыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Паставы)*, **кс. Генадзь Рэйшэль** *(Віцебск)*;

**17 жніўня** – імяніны адзначае **кс. Яцэк Хутман** *(Камаі)*;

**18 жніўня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Ідолта)*, **кс. Валерый Марціноўскі** *(Віцебск)* і **кс. Антон Лагунёнак** *(Віцебск)*;

**21 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Аляксей Варанко** *(Віцебск)*;

**26 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Кулік** *(Мёры)*;

**29 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вячаслаў Пялінак** *(Брэст)*;

**31 жніўня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*.



*Падрыхтаваў*
***кс. кан. Віктар Місевіч***

# Святы Бэнэдыкт. Тэст

**Шаноўныя чытачы! У сённяшняй віктарыне мы запрашаем прыгадаць некаторыя факты з жыцця (і не толькі) святога Бэнэдыкта з Нурсіі.**



**1 З якой краіны паходзіць гэты святы?**



**А.** Германія
**Б.** Італія
**В.** Францыя

**2 У якім стагоддзі жыў святы Бэнэдыкт?**



**А.** V-VI
**Б.** IV-V
**В.** VII

**3 Як перакласці прынцып “Ora et labora”?**




**А.** маліся і працуй
**Б.** малітва вызваляе
**В.** малітва аздараўляе

**4 У святога была сястра, якая заснавала першы ў Еўропе жаночы манастыр. Як яе звалі?**



**А.** Агнешка
**Б.** Хільдэгарда
**В.** Схаластыка

**5 Які Папа аб’явіў святога Бэнэдыкта апекуном Еўропы?**



**А.** Павел VI
**Б.** Грыгорый I
**В.** Ян XXIII

**6 На якіх трох прынцыпах, паводле святога Бэнэдыкта, павінна будавацца манаскае жыццё?**



**А.** на паслухмянасці, бязмоўі, пакоры
**Б.** на паслухмянасці, ахвярнасці, чыстасці
**В.** на паслухмянасці, любові, братэрстве

**7 У які дзень Касцёл успамінае святога Бэнэдыкта?**



**А.** 11 ліпеня
**Б.** 14 сакавіка
**В.** 14 лютага

**8 Што, апроч скрутка Рэгулы і жазла абата, з’яўляецца сімваламі святога Бэнэдыкта ў іканаграфіі?**



**А.** пісьмовы стол, кавалак хлеба
**Б.** пучок розгаў, кубак са змяёй
В. страла, звон

**9 Як звалі манаха, які дапамог святому Бэнэдыкту распачаць жыццё пустэльніка?**



**А.** Кіпрыян
**Б.** Кірыл
**В.** Раман

**10 Колькі Папаў Рымскіх насіла імя Бэнэдыкт?**



**А.** 23
**Б.** 16
**В.** 13

*Падрыхтавала*
***Лаліта Арлоўская***

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

# Адпустовая ўрачыстасць у Новалукомлі







**21-22 ліпеня парафія святой Марыі Магдалены ў Новалукомлі святкавала 25-гадовы юбілей парафіі, 20-годдзе касцёла, будынак якога дастаўся вернікам ад ранейшай гарадской кацельні, але які з кожным годам прыгажэе, і адпустовую ўрачыстасць у гонар апякункі парафіі святой Марыі Магдалены.**

■ **Алена Пажога**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Увечары 21 ліпеня ў святыні віталі спісы абразоў Маці Божай, выстава якіх будзе адбывацца на працягу тыдня.

Урачыстую святую Імшу 22 ліпеня а 15-й гадзіне ўзначаліў ардынарый Віцебскай дыяцэзіі біскуп Алег Буткевіч. Біскуп Алег шчыра прывітаў усіх прысутных, асабліва тых, хто падрыхтаваўся да прыняцця сакраманту канфірмацыі.

Гамілію прамовіў біскуп Юры Касабуцкі. Ён ўзгадаў постаць св. Марыі Магдалены, якая напачатку вяла грэшнае жыццё. Калі ж яна сустрэлася з народным гневам, адбылася лёсавызначальная сустрэча з Езусам. Езус не асудзіў яе, але прабачыў мноства грахоў Марыі Магдалене. Пасля сустрэчы з Хрыстом яна змяніла сваё жыццё, стала вельмі актыўнай хрысціянкай. Яе называюць апосталкай апосталаў. Калі разважаем пра Марыю Магдалену, то бачым магчымасць зменаў у чалавечым жыцці. Таксама іерарх нагадаў, як змяніліся апосталы пасля Пяцідзясятніцы, пасля прыняцця Святога Духа. Яны заставаліся вернымі Хрысту на працягу ўсяго свайго жыцця.

Біскуп Юры Касабуцкі ўдзяліў сакрамант канфірмацыі 6-і вернікам. Канфірмацыя – сакрамант хрысціянскай сталасці. Гэта вялікі-вялікі дар Духа Святога.

Затым адбылася працэсія дароў, падчас якой да алтара былі прынесены крыжы-памяткі сакраманту канфірмацыі, запаленая свечка, каравай хлеба, кветкі, плады садавіны і гародніны, віно і вада, хлеб.

Напрыканцы Імшы біскуп Алег выказаў падзяку усім, хто прымаў удзел у пабудове касцёла, асабліва адзначыў руплівую працу пробашча кс. Мікалая Ліпскага.

Пры выстаўленым Найсвяцейшым Сакраманце адбылося набажэнства да св. Марыі Магдалены.

Затым адбылася працэсія вакол святыні. Прагучаў гімн "Цябе, Бога, праслаўляем", вернікі прынялі блаславенне Найсвяцейшым Сакрамантам.

Парафіяне выказалі словы падзякі і ўручылі кветкі біскупам і святарам.

Пробашч парафіі кс. Мікалай Ліпскі перадаў прывітанне і віншаванне ад кс. Мечыслава Янчышына, першага пробашча парафіі. Таксама кс. Мікалай узнагародзіў самых актыўных парафіянаў, сярод якіх была найстарэйшая 94-гадовая парафіянка. Да віншаванняў далучыўся і біскуп Алег Буткевіч. Асаблівая падзяка была скіравана хору з парафіі св. Роха з Мінска, які дапамог больш узнёсла падрыхтавацца да ўдзелу ў святой Імшы, а таксама аздабляў літургію разам з парафіяльным хорам.

Біскуп Юры Касабуцкі асвяціў крыжы-памяткі, а таксама крыж ля касцёла.

Затым святкаванне прадоўжылася на прыкасцёльным пляцы, дзе адбыўся канцэрт вядомых беларускіх спевакоў Валянціны Альшанскай, Алега Сямёнава і групы "Дразды".















# Свидетельство Александра о выходе из алкогольной зависимости

**Александр – обычный человек с тяжёлой жизнью, справиться с которой ему долгое время “помогал” алкоголь. “У нас, алкоголиков, проблема не с алкоголем, а с трезвой жизнью. По крайней мере, так было у меня,” – говорит он. Но с помощью группы “Анонимных алкоголиков” и программы “12 шагов”, которую они предлагают, Александр научился жить трезво.**

Впервые я употребил алкоголь лет в 17 на выпускном вечере. Перед танцами как не выпить? После этого алкоголь вошёл в мою жизнь. Тогда я выпивал как все, не больше, не меньше. В основном я выпивал просто потому, что так было принято в обществе, особенно по праздникам. Хоть изредка и случалось выпить лишнего, но алкоголь мне тогда проблем не приносил.

Проблемы у меня появились, когда моей жене поставили онкологический диагноз. Я очень тяжело переносил всё это: поездки к врачам, операции. Мне было больно наблюдать за тем, что с ней происходит, было тяжело принять эту новую реальность. “Почему всё это происходит с нами?” – задавал я такого рода вопросы. Тогда я начал употреблять не для общения или веселья, как это было раньше, а чтобы просто снять боль. Когда выпивал, становилось легче, было не так страшно. После смерти супруги остановить моё употребление алкоголя не мог никто. Единственное, что меня сдерживало, – это сын-подросток. В тот момент я уже понимал, во что превратилось моё увлечение алкоголем.

Ситуация отца-одиночки заставляла искать выход. Это было невероятно тяжело, потому что, когда просыпался, все мои мысли были о выпивке.

**Неоднократно кодировался, ездил к бабкам, шаманам. Ничего не помогало. После кодировок я мог выдерживать определённое время без употребления, но это была не трезвость, это был сухой алкоголизм.**

Я становился нервным, раздражительным, злым на весь мир, выдерживал время кодировки скрепя зубами, а когда оно заканчивалось, уходил в запой.

Помню, после первой кодировки меня позвали выпить в компании. Тогда я подумал, что раз выдержал год, то смогу употреблять, как раньше, в молодости, когда употребление ещё не было проблемой. Эта иллюзия разбилась о первую же рюмку. Я понял, что если стал алкоголиком, то больше никогда не смогу употреблять алкоголь как нормальные люди. Понимал, но остановиться не мог. При этом не думал, что я – алкоголик.

Такая борьба с алкоголем продолжалась несколько лет. За это время сын стал взрослым и женился. Мой единственный сдерживающий фактор исчез, и остановить меня от употребления в тот момент не могло ничто. Допился до того, что и пить не мог и не пить не мог, спать не мог и жить не хотел. По утрам меня страшно ломало, и каждый раз я обещал себе, что больше никогда не притронусь к стакану. Ладно себе, я сыну обещал, а для меня это – святое. Но никогда не мог это обещание сдержать. Только тогда я начал понимать, что уже алкоголик.

Мой друг, сослуживец, который в тот момент жил в Москве, рассказал мне про анонимных алкоголиков. Я не мог поверить, что у нас тоже могут быть такие группы, сказал ему: “Какие анонимные, где твоя Москва и где Новополоцк?” А он мне скинул телефоны новополоцкой группы. Я позвонил, но всё равно всячески цеплялся за употребление. В день, когда собирались группы, у меня находилось тысячи причин, по которым я не мог пойти.

Когда всё-таки попал на группу, меня что-то зацепило и я начал ходить туда каждый день. Правда, не сразу принял программу “12 шагов”, мне казалось, что она мне ничем не поможет. После трёх месяцев посещения группы мне был дан “кредит трезвости”. Как это происходит, я не понимаю, трезвость просто пришла сама собой. Помню, стоял в подъезде, курил, и вдруг пробежала мысль взять двести грамм, расслабиться, а обычно с этого начинались все мои запои, но я подумал над этим чуть дольше, и понял, что не хочу. В тот день я остался трезвым и уже три года я не пью.

После пяти месяцев трезвости у меня появилась внутренняя потребность пройти программу и после этого не возникало проблем с тем, чтобы оставаться трезвым. Пропала тяга к алкоголю, я понял, насколько хорошо жить трезвой жизнью. Всё стало на свои места, наладились отношения с сыном, пропал страх перед жизнью. Сегодня у меня есть силы оставаться трезвым, даже при том, что периодически появляются проблемы разного рода, бывают и очень серьёзные.

*Со слов Александра*
*свидетельство записала*
***Лолита Орловская***

## Капліца ў Віцебскай абласной клінічнай лякарні

**Святая Імша там цэлебруецца кожную трэцюю сераду месяца а 16.00.**

Па просьбе пацыентаў і індывідуальнай дамоўленасці са святаром святая Імша можа быць адпраўлена ў іншы дзень і час.
Капліца знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

***Кантакты:***
***+375 29 785-12-98 – кс. Генадзь***
***+375 29 597-32-01 – Марыя***

# Как спастись от алкоголизма?

**“Анонимные алкоголики” – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**



• Единственное условие для членства – это желание бросить пить.

• Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.

• Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.

• Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.

• Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге “Анонимные алкоголики”. Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29

**Где нас найти?**

**г. Витебск**
Группа “Возрождение”
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа “Выход есть”
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа “Лотос”
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Браслав**
Группа “Истина”
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Лепель**
Группа “У озера”
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Глубокое**
Группа “Точка отсчёта”
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа “Радость”
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: среда и воскресенье – 18.00
+375 (29) 737-47-64

**г.п. Шумилино**
Группа “Свет”
ул. Светлосельская 2
суббота 15.00
тел. +375 29 8173632
эл. почта: mifik29@gmail.com

**г. Полоцк**
Группа "Секрет выздоровления"
ул. Держинского 50.
Расписание собраний:
среда 19:00, суббота 19:00
тел. +375 29 7019101

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

## Цэнтр дапамогі залежным ад алкаголю і наркотыкаў “Светач”

**211730, Віцебская вобласць, г.п.Бягомль, вул.Кірава, д.6**
**МТС +375 (33) 345 52 78;**
**8 (02157) 3-30-44**
**Сайт: http://aleteya.by/**



**“Светач” – месца, дзе людзі жывуць у цвярозай супольнасці цвярозым жыццём**

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны* ***ксёндз Аляксей Ляшко****! З нагоды імянінаў (17 ліпеня) ад усяго сэрца жадаем Вам моцнага здароўя на доўгія гады, поспехаў у святарскай працы і як афіцыялу Біскупскага суда, цярплівасці і моцы, каб весці людзей да Бога, нязгаснага запалу, мудрасці і радасці ў сэрцы, нястомных сіл у абвяшчэнні Евангелля, добразычлівых людзей побач!*

*Няхай Анёл-ахоўнік заховае Вас пад сваімі крыламі ад хваробы, зла, смутку на ўсіх жыццёвых дарогах! Няхай Божая Маці апякуецца, моліцца кожны дзень за Вас перад Божым тронам, ахінае цяплом свайго сэрца, ласкай і дабрынёй, дапамагае ў Вашых патрэбах!*

*Мы шчыра дзякуем Вашай маме за выхаванне сына-святара!*

***З малітвай і павагай, парафіяне касцёла св. Айца Піа ў Лёзне***

### Хвала Хрысту!

*Паважанаму* ***ксяндзу Юрыю Жаўняровічу*** *з нагоды чарговай гадавіны святарства (5 жніўня) жадаем моцнага здароўя, натхнення і вытрымкі на доўгія гады душпастырскага служэння!*

*Вам жадаем ад душы:*
*Хай узмоцніць ласку веры*
*Маці Божая з Вышынь!*

*Шлях святарскі хай сагрэе*
*Божы Провід моцай ласк!*
*На шляху жыцця сустрэне*
*Толькі мір, спагада Вас!*

*Дзякуем ад сэрца кожны*
*За паслугу алтара!*
*Доўгіх год Вам, плённай працы,*
*Сіл, здароўя і дабра!*

***Вернікі парафіі Маці Божай Анёльскай (в. Замошша)***

### Хвала Хрысту!

*Сардэчна віншуем нашага* ***пробашча Юрыя Жаўняровіча*** *з гадавінай святарскага пасвячэння (5 жніўня)!*

*Няхай добры Бог адорвае Вас ласкамі і супакоем і далей дапамагае Вам ва ўсіх справах, у выкананні нялёгкай святарскай паслугі. Няхай Езус Хрыстус, Якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх руках, благаслаўляе кожны Ваш дзень, а Дух Святы натхняе на доўгую святарскую службу.*

*Шчыра дзякуем за клопат, ласку і дабрыню, за тое, што вучыце нас, парафіян, любіць Бога і бліжняга. Дзякуем за Вашу адданую працу і малітву за нас, простых людзей. Вялікі дзякуй і нізкі паклон Вашым бацькам за сына-святара.*

***Вернікі касцёла Узвышэння Святога Крыжа (аг. Ахрэмаўцы Браслаўскага р-на)***

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Віншуем нашага паважанага* ***ксяндза-пробашча Аляксандра Піравара*** *з днём нараджэння, які ён адзначыў 7 ліпеня! Жадаем шмат Божых ласкаў і заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі!*

***З удзячнасцю і павагай, вернікі капліцы Маці Божай Будслаўскай (аг. Кардон)***

# В Казахстане впервые состоялась коронация статуи Девы Марии

**7 июля в торжество Пресвятой Девы Марии Царицы Мира, главной покровительницы Церкви Казахстана, архиепископ Вацлав Депо возложил корону на статую Девы Марии в Озерном. По этому случаю Папа Франциск направил специальное письмо верующим Казахстана, сообщает** *catholic-kazakhstan.*



Корона была изготовлена Мариушем Драпиковским из Польши, автором алтаря под названием "Звезда Казахстана", расположенного в Озерном. Это один из двенадцати алтарей в разных странах, создаваемых с целью объять все концы земли молитвой о мире во всем мире.

Инициатива изготовления короны для статуи в Озерном исходила от простого польского шахтера. Корона сделана из драгоценностей, пожертвованных для этой цели польским народом.

Для участия в торжественном событии в Национальном санктуарии в Озерном собрались католики из разных уголков Казахстана. Около 150 католиков накануне, 6 июля, совершили традиционное 30-километровое паломничество из Келлеровки в Озерное.

# 1400 польских семинаристов совершили паломничество в Ченстохову

**Ясна Гура, паломнический центр в Ченстохове, принял шесть паломнических групп семинаристов из Польши. Всего – более 1400 молодых людей.**

Кульминацией паломничества, которое проводится раз в пять лет, начиная с 1999 года, стала Месса в базилике Ясной Гуры, где находится образ Матери Божьей Ченстоховской. Месса служилась на латыни и её возглавил префект Дикастерии по делам духовенства кардинал Лазарус Ю Хын Сик.

В своей проповеди кардинал сказал: "Помните, что в Евангелии первым является тот, кто служит всем. Это ваша Кана Галилейская, где вы всегда можете быть уверены, что ваша Небесная Мать примет и обнимет вас, потому что хочет поддержать вас, будущих священников, в следовании за Её Сыном – Иисусом".

Позднее в своём интервью для инфослужбы санктуария кардинал подчеркнул, насколько важно для христианина жить Божьим Словом: "Быть христианином – значит жить в соответствии с Божьим Словом. Тот, кто этого не делает, и христианином не является. Иисус сказал, что тот, кто живёт Божьим словом, строит свой дом на скале, а тот, кто нет, – на песке. Вот почему для семинаристов, будущих священников, особенно важно жить Божьим словом".



Священники, сопровождавшие семинаристов в паломничестве, указали на служение как на самую суть их призвания. "Священство означает служить и быть доступным для Христа и для других. Священство – это служение в верности, которое можно осуществить только в том случае, если тот, кто служит, полностью отдаёт себя Тому, Кому он служит", – сказал о. Арнольд Храпковски, Генеральный Настоятель ордена св. Павла, Первого Отшельника.

"Каждый священник должен прежде всего наследовать Христу, сказавшему, что Он – слуга, и омывшему ноги своим ученикам. Это наша главная миссия", – добавил его собрат о. Мариуш Табульски.

*Рускатолик.рф*

### Прысвячаю пілігрымам

*Ішлі пілігрымы вясковай дарогай,*
*Няслі свае просьбы, падзякі да Бога.*
*Іх сонца пякло, іх дажджы палівалі,*
*А вусны малітвы ўсё роўна шапталі!*

*Ішлі пілігрымы. Нясл і ў сэрцы веру,*
*Без ценю дакору і без недаверу.*
*Гарэлі агнём ступні ног пілігрымаў,*
*А вочы казалі: "Нас Бог не пакінуў!*

*Мы дойдзем! Мы разам! Аўтар ужо блізка,*
*Прад Маці Будслаўскай падзём нізка-нізка.*
*Даруй, Маці Божая, нашы грахі!*
*Пашлі нам свой позірк, плашчом ахіні!*

*О, Маці Святая, дай сіл зноў устаць!*
*І жыць з верай у сэрцы, і з ёй паміраць!"*

***Марына Трушыніна***



# Гэта *прыкольна*? Гэта *прышпільна*? Ці, можа, гэта *пацешна*?

**У папярэднім нумары “Каталіцкага Весніка” мы разглядалі выкарыстанне ў беларускай мове, найперш у вуснай неафіцыйнай камунікацыі, назоўніка *варушняк* і дзеяслова *варушыцца*. Нагадаем, што нашаму назоўніку *варушняк* у рускамоўнай нефармальнай практыцы адпавядае лексема *движуха* (*движ*). І вось пасля выхаду чэрвеньскага нумара “Каталіцкага Весніка” аўтар матэрыялу атрымаў з дзясятак водгукаў. А таксама пытанняў і прапановаў парэкамендаваць беларускія адпаведнікі для некаторых іншых папулярных словаформаў і канструкцый, якія ўжываюцца пераважна ў рускамоўным афармленні. Ідэя нам падаецца даволі цікавай, тым больш што жывая камунікацыя спрыяе больш якаснаму засваенню і ўнармаванай літаратурнай мовы, развівае вербальны густ.**

■ Юрась Бабіч, *кандыдат філалагічных навук*

Сёння мы звернемся да допісу спадарыні Тамары К. з Вілейскага раёна. Бо пытанне, якое яна ўздымае, як нельга лепш карэлюе з нашым чэрвеньскім моўным матэрыялам. Так, у прыватнасці, сп-ня Тамара зазначае: “З вялікай цікавасцю прачыталі артыкул пра слова “варушняк”. Мая дачка-школьніца часам выкарыстоўвае гэта слова, кажучы, напрыклад, *Надакучыла сядзець дома, хочацца нейкага варушняку*. Ці яшчэ: *У школе цяпер такі варушняк – ні на што не хапае часу*. Праз дачку і я, бывае, неяк несвядома таксама магу сказаць, да прыкладу, *Хопіць ужо гэтага варушняку, дай адпачыць*. Ці штосьці падобнае… А з газетнага матэрыялу я зразумела, што ва ўжыванні такіх слоў нічога страшнага няма. Тады ў мяне пытанне: а як можна было б сказаць прыгожа пабеларуску нешта накшталт *гэта прыкольна, гэта нейкі прыкол?* Мая дачка ўжывае слова *прышпільна*. Але як тады сказаць *прыкол*? *Прышпіл* ці што?)”

Адразу падзякуем сп-ні Тамары за цікавасць да нашых публікацый, а яе дачцэ – за прыхільнасць да беларускага слова, за імкненне ўжываць у вусным маўленні нестандартныя, адметныя лексемы. І тут зусім не важна, што аналізаваныя намі словы – гэта пазаслоўнікавая лексіка, некадыфікаваная, інакш, слэнгізмы. Важна тое, што любыя эмоцыі, экспрэсію можна перадаць менавіта пабеларуску. Гэта асабліва папулярна сярод моладзі.

І, безумоўна, паспрабуем адказаць на пастаўленае пытанне адносна словаформаў *прыкольна* і *прыкол*.

Сапраўды, у штодзённай камунікацыі мы часта можам пачуць падобныя словы: і назоўнік *прыкол*, і прыслоўе *прыкольна*. Але мэтазгоднасць іх ужывання ў беларускамоўнай нефармальнай камунікацыі выклікае ўсё ж сумненні. І ў працытаваным вышэй фрагменце ліста нашай чытачкі цалкам слушна пастаўленае пытанне: *прыкол* – гэта *прышпіл*? Мяркую, кожны разумее, што такога слова няма.

У якіх сітуацыях мы звычайна ўжываем названыя словы? Гэта адбываецца, калі мы хочам падкрэсліць сваё здзіўленне з нечага, нечаканасць нечага, малаверагоднасць. Пры гэтым прысутнічае дастаткова выразная эмацыйная ацэнка. Іншымі словамі можна было б сказаць *нечакана, неспадзявана*. Але гэтыя прыслоўі, з'яўляючыся кадыфікаванымі літаратурнымі лексемамі, не маюць па сутнасці экспрэсіі, эмацыянальнай выразнасці, якая тут акурат і патрабуецца. Што цікава, нашыя слоўнікі, каторыя ўжо фіксуюць лексемы кшталту *прыкольна, прыкол*, прапануюць беларускія варыянты да прыслоўя *прыкольна* якраз як *прышпільна*, а слова *прыкол* пакідаюць нязменным. І электронны слоўнік “Белазар” таксама, дарэчы. А, да прыкладу, “Слоўнік новых слоў беларускай мовы” (Мінск, 2009, аўтары – В. Уласевіч і Н. Даўгулевіч) пакідае ўвогуле без зменаў рускія формы: *прыкол, прыколвацца, прыкольны, прыкольна* (с. 287). Яно і не дзіўна, бо з часу выхаду згаданага слоўніка прайшло чатырнаццаць гадоў, а мова зменяецца імкліва.

На нашу думку, рускае прыслоўе *прыкольна* пабеларуску варта перадаваць словам **пацешна**. Яго, дарэчы, фіксуе акадэмічны “Слоўнік беларускай мовы” (Мінск, 2012, с. 573). Як і прыметнік **пацешны**, і назоўнік **пацешнік**. І гэта цалкам заканамерна. А “Тлумачальны слоўнік беларускай мовы” (1980, т. 4, с. 134) падае значэнне прыметніка ***пацешны*** як “смешны, забаўны”. Гэта цалкам падыходзіць як адпаведнік да рускага *прикольный*. Прывядзём пару кантэкстаў дзеля ілюстрацыі: *Уся хлопчыкава **пацешная** постаць цягнулася наперад, да гэтага капрызнага мяча* (Міхась Лынькоў); ***Пацешны** народ гэтыя малыя! Не было такога месяца, каб цудоўны сынок чым-небудзь не здзіўляў Васіля Цімафеевіча…* (Іван Мележ); *Барсучаняты былі такія мілыя, **пацешныя**, што хлопцам і ў думку не прыйшло іх забіваць* (Янка Маўр).

Слова *прыкол* мае свой беларускі адпаведнік – назоўнік **пацеха**. У названым слоўніку яно падаецца са значэннем "забава, забаўка, весялосць, якое-небудзь смешнае здарэнне", што выдатна падыходзіць для перадачы сэнсу адпаведнага эмацыйна афарбаванага кантэксту: *Бубніць тут човен, ходзіць рэха – / Такая хлопцу з ім **пацеха**!* (Якуб Колас). Нехта б мог сказаць цяперашняй мовай *Такі ўжо хлопцу з ім **прыкол***, і сэнс перадаўся б дакладна. Або яшчэ прыклад: *Гаспадар глядзеў з вясёлай цікаўнасцю.., быццам хацеў сказаць: “Пачакайце, зараз будзе такая **пацеха**!”* (Янка Маўр).

**Пацешыцца** – па-беларуску тое, што па-руску *приколоться*. Слоўнік так трактуе значэнне згаданага дзеяслова: “Парадавацца, палюбавацца, атрымаць задавальненне. Паздзекавацца з каго-небудзь, чаго-небудзь, пазабаўляцца”: *Старэйшы любіў **пацешыцца** з малога, даваў яму розныя смешныя заданні; Я думаю, з цябе ўсяго толькі **пацешыліся**, а ты ўспрымаеш усур'ёз*. Ну і яшчэ назоўнік **пацешнік** як адпаведнік да рускага *приколист*: *Андрэй – усім вядомы **пацешнік**, які нікога не прапусціць, каб не пакпіць; – І ты яму паверыў? Гэта самая сапраўдная **пацеха**, а сябар твой – яшчэ той **пацешнік**!*

Як бачым, прыведзеныя ўласнабеларускія лексемы выдатна адлюстроўваюць сэнс рускіх слоў *прикольный, прикол, приколоться, приколист*, у поўнай меры перадаюць адценне іроніі, валодаюць выразнай эмацыянальнай афарбоўкай, экспрэсіяй. Зразумела, мы можам іх ужываць толькі ў нефармальнай камунікацыі, але менавіта ім варта аддаваць перавагу перад рускімі адпаведнікамі, узбагачаючы нашу лексіку і павышаючы свой уласны ўзровень валодання мовай.

# Мова для моладзі

**Цяперашняе пакаленне "часавае": у кожнага прынцып – "жыць момантам", не думаючы надоўгатэрмінова. Хуткія зносіны, хуткая змена дзейнасці, лёгкія пераезды ў новыя месцы. Не скажу, што бачу ў гэтым нешта дрэннае. Наадварот, лёгкасць прыняцця рашэнняў і асалода ад жыцця тут і зараз дае больш карысці. Але ў кароткатэрміновае жыццё не ўпісваецца доўгатэрміновы Бог. Або моладзь не ведае, як Яго там змясціць?**

Ёсць маладыя, якія з дзяцінства ходзяць у касцёл, бо так трэба, але нічога не разумеюць. А ёсць маладыя, якія яшчэ не прыйшлі ў касцёл і якіх трэба евангелізаваць. У абодвух выпадках да моладзі трэба звярнуцца і распавесці ім пра Касцёл, пра Бога і пра святую Імшу такім чынам, каб яны зразумелі. А ці дастасаваны сучасны Касцёл да сучаснай моладзі?

Моладзь хоча каб кожнага з іх трактавалі як індывідуальную асобу, а Касцёл увесь час "масавы". Казанні святароў скіраваныя звычайна на дзве групы вернікаў: на дзяцей і на дарослых, а маладыя, якія ў сваім узросце маюць больш за ўсіх пытанняў і спрабуюць знайсці адказы на іх у Касцёле, застаюцца пакінутымі.

Пэўны час я хадзіла на студэнцкую Імшу ў Польшчы. Усё тое самае, як на кожнай Імшы, але падыход святара да прысутных зусім іншы. Казанне ніколі не распачыналася словамі "Умілаваныя ў Хрысце Пану браты і сёстры", бо заўсёды гучала "Дарагая моладзь" або "Дарагія студэнты". Ксяндзы праводзілі паралелі паміж Евангеллем і студэнцкім жыццём, даючы каментары і парады, якіх моладзь патрабуе тут і зараз.

Я лічу, што за столькі дзесяцігоддзяў Касцёл у Беларусі мог бы зрабіць крок наперад у стасунках да моладзі, пачаць размаўляць на зразумелай ім мове. Больш важным, як мне падаецца, ёсць зразумелае казанне. Не літаратурнай мовай, без прыгожых слоў з падручнікаў, а мовай, якой мы размаўляем кожны дзень. Варта быць "у трэндзе": не трэба апавядаць пра пэйджар, калі ўсе пішуць у месэнджарах.

Евангелле павінна заставацца самім сабой, гэта значыць, Добрай навіной. А нешта добрае лепш за ўсё казаць простай мовай, не пераходзячы ў стыль "біскупскіх лістоў".

***Яна Чайко***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:
***Газета***
***“Каталіцкі Веснік”***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:
***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

*Рэдакцыя*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Як Касцёл ставіцца да рэлігійнага турызму?

**"Добрый день. Я пишу бакалаврскую работу, посвященную неоготическому наследию Беларуси. Как известно, многие костёлы являются архитектурной ценностью и пользуются популярностью у туристов. Мне бы очень хотелось узнать, как сами прихожане и ксендзы относятся к вовлечению костелов в туризм. Что выдумаете по этому поводу? Надеюсь на вашу помощь".**

*Ирина*



– Добры дзень, паважаная Ірына! Сапраўды, як Вы згадалі, большая частка касцёлаў, якія захаваліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі пасля рэвалюцыі, Другой сусветнай вайны і рэжыму ваяўнічага атэізму, з'яўляецца помнікамі архітэктуры і ўпрыгожвае наш край.

Калі мы звернемся да гісторыі, то ўбачым, што ў Віцебскай вобласці да 1938 г. не засталося ніводнага дзеючага каталіцкага касцёла, хаця яшчэ па стане на 1926 г. у Віцебскай і Полацкай акругах дзеючых касцёлаў было каля дваццаці, і ў іх служыла каля дваццаці ксяндзоў. Пазней усе касцёлы зачынілі, некаторыя перапрафілявалі ці зусім разбурылі, а святароў арыштавалі і саслалі ў лагеры, дзе яны амаль усе загінулі. Пасля вайны і да пачатку 1990-х гг. ва ўсходняй частцы вобласці не дзейнічаў ніводзін касцёл.

У адным толькі Віцебску, страчанымі назаўсёды з'яўляюцца:

– фарны касцёл (узарваны ў 1950 годзе. У 1862-1903 гг. у будынку касцёла размяшчаўся Віцебскі цэнтральны архіў старажытных актаў, архіў губернскага праўлення, архіў канцылярыі генерал-губернатара);

– касцёл св. Антонія Падуанскага (быў узарваны па загадзе ўладаў у 1958 г., хаця будынак касцёла падчас вайны амаль не пацярпеў. Касцёл святога Антонія ўлады закрылі ў 1933 г., перапрафілявалі, выкарыстоўвалі пад спартзалу медыцынскага інстытута і Музей атэізму);

– касцёл св. Юзафа і комплекс езуіцкага калегіума (пабудаваны ў 1649 годзе, з с 1843 – праваслаўны Мікалаеўскі сабор, узарваны ў 1957 годзе);

– касцёл св. Міхала і кляштар дамініканцаў;

– касцёл і кляштар піяраў (ордэн Духоўных Рэгулярных Убогіх Маці Божай Пабожных Школаў) ды шмат іншых капліц, касцёлаў і кляштараў.

Некаторыя каталіцкія святыні былі адноўлены і перададзены праваслаўнай царкве. Да прыкладу, існы ў г. Віцебску Пакроўскі сабор быў пабудаваны ў стылі класіцызму як касцёл каталіцкага ордэна трынітарыяў (каталіцкі ордэн манахаў, заснаваны ў 1198 г. для выкупу хрысціян з мусульманскага палону, таксама манахі клапаціліся пра хворых і бедных) у 1806-21 гадах на месцы драўлянага касцёла, закладзенага ў 1758 годзе. Побач з касцёлам быў пабудаваны двухпавярховы кляштар. У 1831 годзе касцёл зачынілі, а манахаў выслалі з горада. У 1840 годзе ў былым кляштары адкрылі прытулак для дзяцей-сірот, а ў 1846 годзе тут была ўтвораная жаночая турма. У 1858 годзе будынак аддалі праваслаўнай царкве. Можам яшчэ прыгадаць Успенскі сабор і комплекс кляштару базылян, а таксама Уваскрасенскую царкву, якія належалі католікам візантыйскага абраду.



Трэба адзначыць, што знішчэнні дакрануліся не толькі да каталіцкіх святынь, але і святынь іншых канфесій. І мы бачым, што дзякуючы намаганням неабыякавых людзей зараз ідзе адраджэнне архітэктурнай спадчыны. І на негатыўных гістарычных прыкладах нам трэба вучыцца, як важна цаніць і зберагаць свой гістарычны скарб. Як важна захаваць тое невялікае архітэктурнае багацце, якое засталося пасля знішчэння. І нават не проста захаваць, а перадаць яго наступным пакаленням.

Зараз мы з'яўляемся сведкамі "нараджэння" так званага рэлігійнага турызму. Пад гэтым тэрмінам разумеюцца падарожжы да рэлігійных цэнтраў і святых месцаў. Для ўдзелу ім неабавязкова быць вернікам ці прыхільнікам таго або іншага веравызнання. Дастаткова мець жаданне і магчымасць наведаць сакральныя аб'екты і пазнаёміцца з архітэктурнай спадчынай пэўнай рэлігійнай канфесіі.

Нашыя пабожныя продкі ўжывалі іншы тэрмін: "пілігрымка". Пілігрымы наведваюць святыя месцы той рэлігіі, якую яны вызнаюць, каб пакланіцца святыням або прыняць удзел у нейкім рэлігійным свяце. Як мы бачым, пілігрымка адрозніваецца ад рэлігійнага турызму сваёй мэтай.

Касцёл дастаткова пазітыўна ставіцца да так званага рэлігійнага турызму. Беручы ў ім ўдзел, асоба крок па кроку набліжаецца да Пана Бога. Дастаткова часта першы раз ў святыню людзі і заходзяць падчас экскурсій, і такім чынам адбываецца першая сустрэча з Богам, Які чакае кожнага чалавека. Падчас агляду архітэктурнай славутасці людзі бачаць не толькі муры святыні, аднак і роспісы, якія з'яўляюцца пэўнага кшталту катэхезай. У старажытнасці роспісы на мурах і столі святынь дапамагалі неадукаванай часткі насельніцтва зразумець тое, што напісана ў Бібліі, глыбей пазнаёміцца з жыццём Хрыста і святых.

Аднак трэба памятаць, што падчас экскурсій, пры наведванні касцёлаў трэба і адпаведна сябе паводзіць. Каб пазбегнуць непаразуменняў, варта мець адпаведную вопратку, перад уваходам у святыню неабходна даведацца, ці можна рабіць фота- і відэаздымкі. Недапушчальна падчас святой Імшы, цэлебрацыі іншых сакрамантаў і сакраманталіяў хадзіць па касцёле, размаўляць і г.д. Адным словам, трэба памятаць, што касцёл – гэта святое месца, прызначанае асаблівяму культу Богу, месца, у якім прысутнічае сам Бог. Таму гэтаму месцу і належыць асаблівая пашана. І, канешне ж, трэба паводзіць сябе так, каб нейкімі недарэчнымі дзеяннямі не перашкаджаць тым людзям, якія знаходзяцца ў касцёле на малітве.

*З павагай,*
***кс. Аляксей Ляшко***

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Сафія Юковіч** *(Сарокі)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф'я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Ала Пятрова** *(Мёры)*, **Марына Вішнеўская** *(Мёры)*, **Соф'я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Антаніна Дарашкевіч** *(Янкавічы)*, **Тэрэса Вароновіч** *(Докшыцы)*, **Іна Пучынская** *(Германавічы)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Караліна Сарока** *(Мінск)*, **Галіна Драгун** *(Юркаўшчына)*, **Зінаіда Рамашка** *(Мінск)*, **Кацярына Шакель** *(Падворынка)*, **Валянціна Мурзенак** *(Паставы)*, **Эмілія Буйнова** *(Параф'янава)*, **Даната Сярогіна** *(Глыбокае)*, **Сільвестр Блышко** *(Гірстуны)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Ванда Кірылава** *(Ёды)*, **Данута Ільіч** *(Яцкавічы)*, **Часлава Паршута** *(Павяцце)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб'е)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Тэрэса Рулевіч** *(Браслаў)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Рэгіна Белюн** *(Петкунішкі)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Клемянціна Крымская** *(Навапалацк)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Веранiка Васілеўская** *(Вялікае Абаб'е)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Ада Шумская** *(Навапалацк)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Святлана Ахрэмчык** *(Лугі)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Ядвіга Станкевіч** *(Віцебск)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Станіслава Пятліцкая** *(Баранавічы)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Часлаў Юршэвіч** *(Мількі)*, **Аліна Шакур** *(Вялікае Абаб'е)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Галіна Каспяровіч** *(Мураваная Ашмянка)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***

ПАЗНАЁМ ХРЫСТА І ЯГО КАСЦЁЛ!

# ПАЗНАВАЙКА

Хвала Хрысту! Дарагі дружа, вітаем цябе ў новым нумары “Пазнавайкі”. Лета – гэта асаблівы час адпачынку, вясёлых сустрэч, а таксама пілігрымак.
Пілігрымка – гэта падарожжа веруючых да месцаў і рэліквій, якія маюць сакральнае значэнне.

## 1 ЗАДАННЕ

У нашай краіне шмат санктуарыяў, куды ходзяць пілігрымы. А ці быў у пілігрымцы ты? А можа яшчэ збіраешся пайсці? У гэтым заданні прапануем табе ўспомніць іконы беларускіх санктуарыяў.
Злучы выявы храмаў з выявамі ікон Маці Божай, якія там знаходзяцца.


Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Браславе




Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Будславе




Касцёл Адведзін Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Тракелях




Касцёл Святых Апосталаў Пятра і Паўла ў Лагішыне



## 2 ЗАДАННЕ

Дапамажы пілігрыму сабраць заплечнік. Пакладзі туды толькі неабходныя рэчы








## 3 ЗАДАННЕ

На ўрачыстасцях, прысвечаных Маці Божай, чытаецца асаблівы гімн, які прамовіла Марыя падчас зведавання.
Прачытай урывак з Евангелля ад Лукі 1, 46-55. Устаў прапушчаныя словы і даведаешся, як называецца гэты гімн.




1. «Велічае душа ... Пана,
2. і ўзрадаваўся дух мой у Богу, маім ...
3. бо ўзглянуў Бог на пакору сваёй ... . І цяпер благаслаўляць мяне будуць усе пакаленні
4. Бо вялікае ... мне Усемагутны, а імя Яго святое.
5. І ... Яго з пакалення ў пакаленне над тымі, хто Яго баіцца.
6. Паказаў моц сваёй ..., рассеяў тых, хто пыхлівы сэрцам.
7. Скінуў магутных з трона і ўзвысіў ... .
8. Дабром галодных насыціў, а багатых ні з чым ... .
9. Прыняў свайго слугу Ізраэля, ... пра сваю міласэрнасць, як абяцаў бацькам нашым — Абрагаму і яго патомству навекі».

## 4 ЗАДАННЕ

У 2021 годзе Папа Рымскі Францішак устанавіў дзень дзядуль, бабуль і пажылых людзей. Сёлета ён адзначаецца 23 ліпеня. Гэта добрая нагода, каб успомніць пра сваіх дзядулю і бабулю. Павіншаваць, сказаць добрыя словы, абняць і памаліцца.
Размалюй ілюстрацыю і абавязкова памаліся за сваіх дзядуль і бабуль.



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Філіпенка***

# У браслаўскім касцёле біскуп Алег Буткевіч асвяціў новы алтар

**9 ліпеня біскуп Алег Буткевіч асвяціў новыя алтар і амбону ў Санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе.**

Як адзначыў пробашч парафіі кс. Станіслаў Мжыглуд SDS, згодна з традыцыяй у алтары змешчаны рэліквіі святых – Северыяна (мучаніка III ст., успамін 23 студзеня) і Аматара (мучаніка IX ст., успамін 30 красавіка).

У гаміліі біскуп Алег разважаў над значэннем алтара як знака сувязі з Богам. З даўніх часоў людзі абіралі алтар месцам пакланення і прынясення ахвяры. Калі ж габрэі прыносілі Богу ў ахвяру найлепшую частку з таго, што мелі, то яны так вызнавалі, што іх жыццё залежыць не ад рэчаў, а ад Бога. Такім чынам давяралі Яму сваё жыццё.

"Алтар з каменю – сімвал трываласці і моцы Божай. Гэта месца эўхарыстычнай ахвяры, праз якую мы ўваходзім у рэчаіснасць Божага Валадарства. А па-другое, алтар, як стол, збірае нас вакол сябе і яднае ў адну сям'ю", – адзначыў біскуп Віцебскі.

"Звычайны хлеб тут падчас кожнай святой Імшыператвараецца ў цела Езуса Хрыста. Просім сёння, каб мы абудзіліся, каб цанілі і баранілі, як нашыя продкі, гэты вялікі дар і месца, куды можам прыйсці і памаліцца", – заахвоціў іерарх.




*Святлана Жылевіч, waladarka.by*
*Ірына Гайдамовіч, фота*

# Браслаў запрашае ў школу касцельнага спеву

**З 14 па 19 жніўня пры парафіі Нараджэння Маці Божай у Браславе будзе праводзіцца летняя школу касцельнага спеву.**



Курс літургічнай музыкі прызначаны для людзей, якія жадаюць выконваць музычнае служэнне падчас святой Імшы, і будзе ўключаць заняткі з тлумачэннем сэнсу Літургіі ў цэлым, парадку і значэння асобных частак святой Імшы, прынцыпаў правільнага падбору рэпертуару для Літургіі.

Арганізатары запрашаюць узяць удзел у тыдні касцельнай музыкі ўсіх, хто жадае праслаўляць Бога згодна з заклікам святога Аўгусціна: "Спявай галасам, спявай сэрцам, спявай вуснамі, спявай жыццём!"

Мастацкі кіраўнік – **Уладзімір Неўдах.**

**У праграме:**
1. Пастаноўка голасу для харыстаў і кантараў;
2. Супольны харавы спеў;
3. Тэорыя і практыка касцельнага спеву;
4. Арганнае суправаджэнне.

Прыняць удзел у тыдні касцельных мерапрыемстваў запрашаем усіх, каму падабаюцца касцельны спеў і музыка.

Рэгістрацыя ўдзельнікаў – 14 жніўня ад 15 гадзіны (будынак насупраць касцёла). Пачатак заняткаў – а 17 гадзіне.

Удзельнікі атрымаюць неабходны нотны матэрыял.

Арганізатары забяспечваюць начлегі і харчаванне.

Па пытаннях удзелу і запісу просім звяртацца не пазней за 7 жніўня: **+37529 715-73-42** альбо *agniinna@mail.ru* – Іна Сапун

*waladarka.by*

# Каляндар на жнівень

**1** жніўня – успамін св. Альфонса Марыі Лігуоры, біскупа і доктара Касцёла.
**2** жніўня – успамін св. Эўсэбія Вэрчэльскага, біскупа, св. Пятра Юліяна Эймарда, прэзбітэра.
**4** жніўня – успамін св. Яна Марыі Віянэя, святара.
**5** жніўня – гадавіна пасвячэння Рымскай Базылікі Найсвяцейшай Панны Марыі.
**6** жніўня – свята Перамянення Пана.
**7** жніўня – успамін св. Сікста II, папы і паплечнікаў, мучанікаў; успамін св. Каэтана, прэзбітэра.
**8** жніўня – успамін св. Дамініка, святара.
**9** жніўня – свята св. Тэрэзы Бэнэдыкты ад Крыжа (Эдыты Штайн), панны і мучаніцы, апякункі Еўропы.
**10** жніўня – свята святога Лаўрэнція, дыякана і мучаніка.
**11** жніўня – успамін св. Клары.
**12** жніўня – успамін св. Жанны Франсуазы дэ Шанталь, законніцы.
**14** жніўня – успамін св. Максімільяна Марыі Кольбэ, прэзбітэра і мучаніка.
**15** жніўня – урачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.
**16** жніўня – успамін св. Стэфана Венгерскага.
**19** жніўня – успамін св. Яна Эда, святара.
**21** жніўня – успамін св. Пія X, папы.
**22** жніўня – свята Найсвяцейшай Панны Марыі Браслаўскай, Валадаркі азёраў.
**23** жніўня – успамін св. Ружы Лімскай, панны.
**24** жніўня – свята св. Барталамея, апостала.
**25** жніўня – успамін св. Людвіка; успамін св. Юзафа Каласанса, прэзбітэра.
**28** жніўня – успамін св. Аўгустына, біскупа і доктара Касцёла.
**29** жніўня – успамін мучаніцтва святога Яна Хрысціцеля.

# Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага апертара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**
1 – Б; 2 – А; 3 – А; 4 – В; 5 – А; 6 – А; 7 – А; 8 –Б; 9 – В; 10 – Б

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 3530

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2300 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 24.07.2023 г. у 8.15

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь